ПОМНІКІ
БЕЛАРУСКАГА ДОЙЛІДСТВА

# СІЛУЭТЫ СТАРОГА МІНСКА

НАРЫСЫ ДРАЎЛЯНАЙ АРХІТЭКТУРЫ





ПОМНІКІ
БЕЛАРУСКАГА ДОЙЛІДСТВА

*А. І. Лакотка*

# СІЛУЭТЫ СТАРОГА МІНСКА

•

НАРЫСЫ
ДРАЎЛЯНАЙ
АРХІТЭКТУРЫ

•

МІНСК
«ПОЛЫМЯ»
1991

ББК 85.113(2)1
Л 19

Выданне ажыццёўлена пры ўдзеле
Беларускага фонду культуры
Серыя заснавана ў 1989 годзе

Рэцэнзент — кандыдат архітэктуры Ю. А. Якімовіч
Аўтарызаваны пераклад на беларускую мову П. П. Сушко

Автор рассказывает об удивительном мире деревянной архитектуры Минска, сформировавшейся на широком промежутке от основания города до начала нашего века, показывает органическую связь исторических процессов с материальной культурой народа.
Книга будет интересна каждому, кому дорого народное наследие, кого интересует его изучение и сохранение.

Л $\frac{4902020000—047}{М\ 306(03)—91}$ 19—91

ISBN 5-345-00447-1

Драўляны дом, штыкетнік вакол яго, у штыкетніку брама або веснічкі, кветкі ў агародчыку... Не так ужо шмат засталося астраўкоў даўніны сярод мора сучасных будынкаў архітэктуры. Ці не таму мы падчас не адчуваем свае карэнні, тыя ніці, якія нябачна звязваюць нас з дзядамі, прадзедамі, людзьмі цудоўнага краю лясоў, палёў, блакітных азёр?

Пад саламянымі стрэхамі хат нараджаліся, жылі, нялёгка здабываючы свой хлеб надзённы, а затым заканчвалі наканаваны ім век аратаі і рамеснікі, ратнікі і градарубы, усе тыя, хто шанаваў і песціў нашу зямлю, ствараў яе багацце. Іх праца і побыт ва ўсе часы знаходзіліся ў непарыўнай узаемасувязі з лесам. Лес саграваў, апранаў, даваў ежу, ахоўваў ад нягод. Дбайна налягаў на драўляную саху араты, сям'я садзілася з драўлянымі лыжкамі да хатняга ачага, ля берагоў рэк, азёр, на людных дарогах сустракалі падарожнікаў драўляныя гарадкі, вёсачкі, што туліліся да пагоркаў і ўзлескаў. Драўляная хата — традыцыйнае жыллё беларуса. Тут фарміравалася бытавая культура, адна з найважнейшых прыкмет, што характарызуюць нацыю.

Ішлі стагоддзі. У буйных гарадах і мястэчках з'яўляліся мураваныя цэрквы і манастыры, ратушы, крамы, дамы купцоў і заможных мяшчанаў. Але асноўным тыпам жылля звычайнага гараджаніна па-ранейшаму заставаўся драўляны дом як прыклад умелага выкарыстання наваколля для задавальнення жыццёвых патрэб. Гэтаму спрыяла і даступнасць матэрыялу, і яго адпаведнасць кліматычным асаблівасцям краю, і канструктыўная дасканаласць будынка.

Сярод помнікаў гістарычнага цэнтра Мінска і масіваў сучаснай забудовы не адразу прыкмеціш схаваныя пад засенню садоў і старых ліп драўляныя домікі. Зараз цяжка паверыць, што яшчэ стагоддзе назад яны складалі 4/5 усёй забудовы горада.

Кніга, што чытач трымае зараз ў руках, — праваднік у чароўны свет драўлянай архітэктуры Мінска ад заснавання горада і да пачатку нашага стагоддзя, ад месца старажытнага дзядзінца да кола прадмесцяў: Ракаўскага, Старажоўскага, Камароўкі, Кашар, Ляхаўкі, Серабранкі, Уборак, Добрай Мыслі, Грушаўкі. Падарожжа ў гэты свет дазволіць асэнсаваць адзінства ў развіцці народнай культуры, якое вызначыла агульныя этнаграфіч-

ныя і архітэктурныя рысы драўлянага жылля земляроба і гараджаніна, убачыць у старажытнай драўлянай гарадской забудове звенні нашай матэрыяльнай культуры, звязаць з узорамі, што захаваліся, шматлікія памятныя падзеі розных эпох. А галоўнае — зразумець, што вывучэнне і зберажэнне тых не вельмі прыметных «аб'ектаў» — абавязак кожнага, каму дарагая народная спадчына.

## ЗАГАДКА ЛЕТАПІСУ

1067 год, канец лютага або пачатак сакавіка. Суровая зіма. Скаванае траскучым маразам неба напаўняецца ружовым водбліскам блізкага досвітку. Ля гарадской брамы дагарае вогнішча, гарачае вуголле ляніва міргае ў студзёным дыханні ветра. Чутна пераклічка дазорных: тыя, што ля вогнішча, пытаюць у тых, што стаяць на сцяне, ці не бачна каго. Вось-вось з'явіцца грозны вораг — па словах навакольна-вясковых жыхароў, якія ўцякаюць пад ахову гарадскіх сцен, ён зусім недалёка. Каторы ўжо дзень з надзеяй чакаюць тут полацкага князя Усяслава — ведаюць, што ідзе на падмогу.

З вежы праз ранішнюю імглу пачынаюць праглядваць дранкавыя дахі пасадскіх домікаў, якія прыціснуліся да гарадскіх сцен, рудыя плямы алешніку ўперамежку з асіннікам, што густа цягнецца ўздоўж Менкі да трысняговых зараснікаў забалочанай поймы Пцічы. Барвовыя водсветы слізганулі па цвёрдым шарпаку, выразна акрэсліўшы мяжу лесу, што ўзвышаўся ўдалечыні за Пцічу. Ці не пырснуць з яго маленькія чорныя кропкі — коннікі варожай раці — і, рассыпаўшыся па снежным белым полі, ці не пакоцяцца імкліва ў бок горада?

...Грузнучы ў глыбокім снезе, шмат дзён прабіраецца праз лясы і балоцістыя даліны войска. Пара ўзнімаецца ад узмыленых коней, заінелі вусы і бароды людзей. Сыны Яраслава Мудрага — князь кіеўскі Ізяслаў, што замяніў бацьку на троне, князь пераяслаўскі Усевалад і князь чарнігаўскі Святаслаў ідуць у землі Полацкага княства, да горада Менска. Дзесьці там спяшаецца на дапамогу гораду дружына полацкага князя Усяслава Брачыславіча, своеўладнага і непакорнага, як бацька, які ваяваў з Яраславам «вся дни живота своего».

Напалоханыя тупатам тысяч капытоў зрываюцца з прамерзлых галін чароды птушак, змаўкае выццё ваўкоў, што рыскаюць у

закінутых селішчах. Дазорныя на вежы замерлі, углядаючыся ў далёкі ўзлесак. На снезе пралеглі цені, плямамі вызначыўшы капцы курганоў. Раптам край лесу паварушыўся, альховыя зараснікі захісталіся, быццам пачалі рухацца. І тут жа цішыню прарэзалі зычныя крыкі дазорных, амаль адначасова загрымелі білы і клялалы, залівіста забрахалі сабакі — непрыяцель набліжаўся да сцен горада.

«...И придоша к Меньску, и меняне затворяшася в граде...» Вечавы набат збірае гараджан. Яны вырашаюць абараняцца і ўтрымліваць горад да падыходу Усяслава. Але сілы няроўныя. Горад захоплены, мужчыны пазабіваныя, жанчыны і дзеці «ўзятыя на шчыты»...

Манах Кіева-Пячэрскага манастыра Нікан у гэты час знаходзіўся ў Чарнігаве і пра тое, што адбылося пад Менскам, неўзабаве даведаўся ад самога князя Святаслава. Гутаркі з дружыннікамі Ізяслава ў Кіеве дапоўнілі карціну падзеі, пра асобныя падрабязнасці Нікан мог даведацца і ад самога Усяслава Брачыславіча, які трапіў у палон і быў прывезены ў Кіеў. Пачутае легла на старонкі «Повести временных лет».

Летапісец расказвае, што, разбурыўшы Менск, саюзнікі выступілі насустрач Усяславу да Нямігі, дзе і напаткалі яго войска «марта в 3 день». «...И бысть сеча зла...» Войска полацкага князя было разгромлена, сам ён уцёк у Оршу. І вось гэтыя скупыя радкі летапісу ператварылі гісторыю ўзнікнення Мінска ў загадку.

Як вядома, назвы большасці старажытнаславянскіх гарадоў мелі тапанімічнае паходжанне («тапа» — мясцовасць, «нім» — імя): Полацк на Палаце, Віцебск на Віцьбе, Гродна на Гараднічанцы, Пінск на Піне і г. д. З летапісу ж вынікае, што Мінск не стаяў на Нямізе: «...взяша Менеск... і пойдоша к Немизе...» Магчыма, той Мінск размяшчаўся на берагах невялікай рачулкі Менкі, прытоку Пцічы, сведчаннем чаго з'яўляецца знаходжанне тут старажытнага гарадзішча (побач вёска Гарадзішча). А як жа горад на Свіслачы? Справа ў тым, што, калі была выказана першая версія ўзнікнення горада (30—ыя гады), для яе пацверджання яшчэ не назапасілася неабходнага археалагічнага матэрыялу. Праведзеныя пазней раскопкі паказалі, што ля месца зліцця Нямігі і Свіслачы калісьці існаваў драўляны замак, вакол яго рос старажытны горад. Верагодна, горад гэты вядзе адлік сваіх гадоў ад больш ранняй, чым пазначана ў летапісу, даты (1067). Даследаванні ў гарадзішчы на Менцы дазволілі ўстанавіць, што ў X—XI стагоддзях тут існавала вялікае пасяленне з шырокім пасадам. Аднак з XI па XIV стагоддзе жыццё ў ім паступова спынілася. Было выказана меркаванне, што менавіта гэта пасяленне насіла назву Менск. Яго жыхары, перабраўшыся з бера-

гоў Менкі ў больш зручнае ў геаграфічных адносінах месца, дзе зліваліся Няміга і Свіслач, далі новаму пасяленню такое ж імя.

Магчыма, разгадка назвы горада хаваецца ў значэнні кораня «мень» («мен», «мена» ў балтаў азначае «малы» — малая рэчка, малое пасяленне). Геаграфічныя назвы з такім корнем распаўсюджаны як у Беларусі (рака Менка і вёска Верхмень у Смалявіцкім раёне), так і за яе межамі (рэкі Менка ля Вязьмы і Мена ў Чарнігаўскай вобласці з аднайменнымі вёскай і гарадком).

Поруч з тапанімам Менка, балтскай асновай «мена», «мень» у спрэчку пра паходжанне назвы Мінска ўключылася і імя асілка Менеска, які звычайна не ўспрымаецца навукай усур'ёз. Прынамсі, можна прывесці не адзін прыклад, калі назву горада ўсходніх славян звязвалі з канкрэтнымі імёнамі. Так, у летапісах адзначаецца, што Кіеў заснаваў князь Кій, Кракаў — Крак, Тураў — варажскі князь Тур.

Легенду пра заснавальніка Мінска запісаў у сярэдзіне мінулага стагоддзя этнограф-падарожнік П. Шпілеўскі. У ёй расказваецца пра тое, што Менеск пабудаваў на беразе Свіслачы дзівосны млын «о семи камнях», дзе мука малолася не з зерня, а з камення. У поўнач Менеск раз'язджаў па дарогах, набіраючы храбрую дружыну з дужых мужоў, якіх сяліў ля млына. У гэтай легендзе, калі не лічыць пэўнай казачнасці сюжэту, шмат падобнага да праўды. У X—XII стагоддзях вадзяныя млыны былі вядомыя славянам. Памол збожжа даваў прыбытак і мог дазволіць Менеску вызначыцца ў маёмасных адносінах сярод суседзяў-абшчыннікаў, а затым і ўзначаліць дружыну.

Як бы там ні было — узнік Мінск першапачаткова на берагах Нямігі ці ў выніку перасялення жыхароў з гарадзішча на Менцы — відавочна адно: старажытны горад адпавядаў лепшым узорам горадабудаўнічага і фартыфікацыйнага мастацтва таго часу. Акружаны шырокім пасадам драўляны замак ля месца зліцця Менкі і ручая Дуная быў надзейным сховішчам для жыхароў густаразмешчаных навакольных селішч, і менавіта яго будаўнічыя вартасці абумовілі адраджэнне замка на Нямізе ў XV—XVI стагоддзях пасля перасялення туды мянян.

Цяпер побач з гарадзішчам на Менцы і старажытнымі курганамі ствараецца Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту пад адкрытым небам. Блізкасць да помнікаў гісторыі вызначыла яго канчатковую канцэпцыю як нацыянальнага, архітэктурна-этнаграфічнага парка, запаведнай зоны, якая заменіць помнікам народнай архітэктуры, перавезеным з розных куткоў рэспублікі, натуральнае для іх асяроддзе.

# У КРАІ ГАРДАРЫКІ

Варагі называлі Рускую зямлю Гардарыкай — краінай гарадоў. Баварскія летапісы VIII—IX стагоддзяў налічваюць іх між Бугам і Дняпром некалькі соцень. Горад, Гарадок, Гарадзец, Гародня, Агародня, Грады, Градаўка, Гарадзішча... Назвы пасяленняў з корнем «гарадзіць» у вялікай колькасці дайшлі да нас са старажытнасці.

У акружэнні дрымучых лясоў, гразкіх балот і лугавых прастораў ляжалі нівы. Ад досвітку да змяркання працаваў на іх земляроб-славянін. Увечары вяртаўся ён у абшчыннае сяленне — селішча. За селішчам, на пагорку, ля месца зліцця ручая з ракой, стаяў высокі частакол. Да яго беглі жыхары навакольных сяленняў хавацца ад ворага. Тут жа знаходзіліся «куміры», «ідалы» — выявы паганскіх багоў. Нярэдка такія ўмацаванні (гарадзішчы) хаваліся ў непраходных нетрах.

На поўначы Беларусі ў гарадзішчах падчас размяшчаліся выцягнутыя ў даўжыню абшчынныя збудаванні для жылля. З вылучэннем з абшчыны асобнай сацыяльнай праслойкі — дружыннікаў апошнія сяліліся на тэрыторыі гарадзішчаў разам са сваім важаком — князем, які будаваў сабе тут сядзібу. Княжацкая дружына мела патрэбу ў рамесніцкіх вырабах, ёй таксама неабходна было збываць частку ваеннай здабычы і даніны, сабранай з аднапляменнікаў за выкананне абавязкаў па іх абароне, таму ля гарадзішч узнікалі рынкі і сяліліся паблізу рамеснікі-гандляры. Пасяленні рамеснікаў за межамі ўмацаванняў называліся пасадамі.

З прыняццем хрысціянства капішча (культавае збудаванне ва ўсходніх славян) замяніў храм, часта звязаны пераходамі з княжацкімі харомамі. Ад варот умацаванага цэнтра праз пасады праходзілі вуліцы — закладвалася аснова радыяльнай планіроўкі. Так фарміравалася старажытнаруская сістэма забудовы горада: град (умацаваны цэнтр) — торг (рыначная плошча) — пасад (кварталы за межамі ўмацаванняў).

Калісьці Усходняя Еўропа была краем дрымучых лясоў. Лес не толькі служыў сховішчам, карміў, але і забяспечваў універсальным матэрыялам для вырабу прадметаў быту, прылад працы, будаўнічых канструкцый. Прасцейшы дах над галавой можна было мець, зрабіўшы павець накшталт будана, які падтрымлівалі стойкі з развілкай уверсе — сохі. Саха аказалася сапраўды

каштоўным для чалавека прыродным вынаходніцтвам. Яна адкрыла цэлую эпоху ў земляробстве, стаўшы правобразам разнастайных вілаў. Атрымалі шырокае прымяненне ў гаспадарцы і рагаткі, сукі-крукі. Частка драўлянага ствала з суком не адно стагоддзе служыла ў якасці зручнай канструкцыі дзвярэй і варот (дзверы на «вораце»). Саха стала асновай калодзежнага жураўля. Але яшчэ больш важную ролю адыграла яна ў развіцці драўлянай архітэктуры. Сведчаннем гэтага — традыцыйныя пабудовы сельскіх сядзіб. На пастаўленыя на асі збудавання сохі ўкладвалася бервяно-прагон, за якое чапляліся жэрдзі-ключы, што складалі аснову каркаса даха. У часы, калі сцены не мелі вуглавых замкоў і бярвенні закладвалі ў пазы вертыкальных слупоў-шул, такая канструкцыя даха вызваляла нетрывалыя сцены ад нагрузкі больш чым на палову — на кожную сцяну прыпадала чверць вагі даха. У буйнагабарытных будынках сялянскай сядзібы, гумнах, клунях, крытых паветках для дзённага адстою жывёлы (дзянніках) сохі ставілі ў рад парамі, што давала магчымасць значна павялічыць папярэчны пралёт. Менавіта ў гэтых збудаваннях — узорах традыцыйнага народнага дойлідства — сохі дайшлі да нашых дзён.

Са з'яўленнем універсальнага злучэння — вуглавога замка складваецца якасна новы напрамак ва ўзвядзенні зрубных пабудоў. Ва ўмовах пастаяннай пагрозы нападу, разбурэння важна было мець трывалае, цяжкадаступнае для рабаўнікоў жыллё. Народныя дойліды вынайшлі не толькі зрубныя сцены, але і зрубны дах. У драўлянай архітэктуры Усходняй Еўропы вядомы пабудовы, якія маюць пірамідальны суцэльны зрубны дах (драўляныя клеці крэпасцяў, вартавыя вежы). Найбольш распаўсюджаны былі дахі, зрубленыя праз бервяно, або, як казалі, праз самец (бервяно схіла даха). Рабіліся дахі і праз два, праз тры самцы — яны называліся разрэжаным закотам у адрозненне ад закота суцэльнага, калі самец прылягаў да самца. Такія дахі існавалі да пачатку нашага стагоддзя ў сельскіх клецях, кладоўках і іншых пабудовах, у якіх захоўвалася найбольш каштоўная маёмасць — збожжа, мука, розныя прадукты, адзенне, конская збруя і г. д. Самцовыя дахі рабілі як пірамідальныя (кастровыя, стажковыя), так і двухсхільныя. Першыя характэрныя для будынкаў абарончага і культавага прызначэння, другія — для жылля, гаспадарчых пабудоў.

У раннефеадальных гарадах жылыя дамы, як правіла, мелі самцовыя дахі з дранкавым пакрыццём — так было больш надзейна і дранка гарэла павольней, чым салома. Зразумела, чаму гэта стала асаблівасцю гарадоў — яны ж сістэматычна падвяргаліся нападам.

Прымітыўная слуповая канструкцыя ўжывалася і ў абарончых

збудаваннях, звычайным частаколе. Паблізу ад варот на вуглах або ў цэнтры ўмацавання ўзвышаліся дазорныя вежы. У частаколе рабіліся прорэзі, байніцы. Сцены пабудоў маглі ўваходзіць састаўной часткай ва ўмацаванне, калі яны, напрыклад, мелі Г-падобны план. У гэтым выпадку абарончая прастора ахоўвалася частаколам. Драўляныя ўмацаванні звычайна ўвенчвалі земляны вал, ля падножжа якога выкопваўся глыбокі роў.

У развіцці старажытнарускіх абарончых мерапрыемстваў адрозніваюць два этапы, звязаныя з ваеннай стратэгіяй і тактыкай. На першым баявыя дзеянні насілі характар рэйдаў у землі ворага — набегаў. Для аховы тады выкарыстоўваліся асаблівасці мясцовасці: пагоркі ля выгібаў рэк або ў месцы іх зліцця, участкі, заслоненыя непраходнымі балотамі. На наступным этапе, калі набегі замяніла асада, да прыродных фактараў далучыліся штучныя абарончыя збудаванні: насыпныя валы, ірвы, драўляныя і земляныя ўмацаванні. Узяць з наскоку іх было немагчыма. Унутры крэпасці таксама трэба было стварыць умовы для вытрымлівання працяглай асады. Таму пры выбары ўчастка пад будаўніцтва пачалі ўлічваць узровень грунтовых вод, магчымасць хуткага гашэння пажараў. Значэнне прыродных ахоўных перашкод некалькі адступіла на другі план. Умацаванні можна было рабіць і ў нізіннай мясцовасці — магутныя валы, глыбокі роў, рубленыя сцены кампенсавалі недахоп натуральных перашкод на шляху ворага.

Многія старажытныя гарады Беларусі (Полацк, Віцебск, Лукомль, Лагойск, Друцк і інш.) мелі надзейныя абарончыя збудаванні. Аснову іх складаў насыпны вал з буйназярністага пяску, умацаваны ўсярэдзіне і ля падножжа радамі бярвенчатых накатаў. Яго форму вызначалі з разліку аптымальнай шчыльнасці абстрэлу на ўсіх участках. У адным, радзей у двух-трох месцах вал праразаўся праходам з варотамі, з надваротнай вежай і пад'ёмным мастом. На грабяні ўзвышаліся драўляныя ўмацаванні. У XV—XVII стагоддзях гэта былі шмат'ярусныя зрубы, як правіла, з запоўненым каменнем і зямлёй ніжнім ярусам — гародні. Гародні стаялі ўшчыльную адна да другой, утвараючы фронт умацавання.

Выкарыстоўваўся і іншы прыём. Будавалі дзве паралельныя сцяны, злучаныя між сабой кароткімі папярэчнымі сценамі, — сцены з тарас. Прамежкавы насціл дзяліў умацаванне на два ярусы. З надбудаваных на выпусках бярвенняў верхняга яруса пляцовак-аблам было зручна абстрэльваць зверху нападаючых, скідваць каменне, ёмістасці з кіпячай смалой.

Сцены ўмацаванняў завяршаліся дранкавым дахам, які таксама падчас выкарыстоўваўся ў мэтах абароны: на вонкавым

схіле ўмацоўвалі бярвёны і ў выпадку атакі скідвалі іх на галовы нападаючых.

Важным абарончым элементам замчышча былі вежы. Вартавая вежа знаходзілася або за сцяной з частакола, у цэнтры ўмацавання (Гродна, Навагрудак XII стагоддзя), або ў лініі сцен — на вуглах, над праёмамі варот і праездаў, у найбольш слаба ахаваных прыродай месцах. Аснову зруба мог складаць як традыцыйны квадрат (клетка), так і шасці-, васьміграннік. Шасці-, васьміgranная ў плане вежа называлася круглікам. Яна мела ярусную будову, значэнне якой узрасло з распаўсюджаннем агнястрэльнай зброі (дазваляла размеркаваць узроўні гарматнай і ружэйнай стральбы). Дашчаныя перакрыцці ярусаў у выпадку прарыву нападаючых у вежу скідваліся ўніз, абаронцы адбіваліся ад ворагаў на верхніх ярусах.

Размешчаныя ў зоне палітычных інтарэсаў Русі, Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, у межах дасягальнасці набегаў крымскіх татараў і нямецкіх рыцараў беларускія гарады пастаянна адчувалі патрэбу ў абарончых збудаваннях. Узяцце Іванам Грозным у 1563 годзе Полацка абумовіла ў XVI стагоддзі чарговую хвалю будаўніцтва драўляных крэпасцяў у Полацкай зямлі. Імкнучыся ўмацаваць подступы да новых тэрыторый, цар загадаў узвесці крэпасці ў Тураве і Сушы, Красным і Казянах, Сокале і Сітні. Адлюстраванні крэпасцяў дайшлі да нас у гравюрах Д.-Б. Кварэлі, выкананых з малюнкаў С. Пахаловіча 1579 года.

Геаметрычная форма ўмацавання ўвязана з абарончымі магчымасцямі тэрыторыі. Так, у Красным і Казянах яны маюць дакладную трохвугольную форму з вежамі па вуглах, у Тураве і Сушы — чатырохвугольную з вежамі ў вуглах і прамежках сцен, у Сітні — форму трапецыі, а ў Сокале — авала. Разнастайная канфігурацыя вежаў у плане (квадратныя, круглыя), многія ўстаноўлены на высокіх насыпных падножжах. У агульнай масе жылой забудовы ўсярэдзіне крэпасцяў вылучаюцца будынкі цэркваў.

Ва ўмовах пастаянных ваенных сутычак будаваць умацаванні навідавоку было цяжка, і градарубы выкарыстоўвалі спосаб зборнага драўлянага будаўніцтва, што здаўна прымяняўся сялянамі. Зрубы часткамі з некалькіх вянцоў падрыхтоўвалі ў лесе. На верхніх вянцах устанаўліваліся канструкцыі даха. Затым даволі доўга (падчас да трох гадоў) зрубы адстойваліся ў лесе. Дрэва за гэты час высыхала, адбывалася натуральная ўсадка пабудовы. Вядомы беларускі этнограф Е. Р. Раманаў выявіў існаванне гэтай традыцыі ў Быхаўскім павеце яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя.

Будаўнікі драўляных крэпасцяў тайна рубілі і папярэдне збіралі ў лесе гародні і тарасы, вежы, крэпасныя пабудовы. Затым

бярвенне ўвязвалі ў плыты і сплаўлялі па рацэ да месца будаўніцтва ўмацаванняў. Тут сцены і вежы хутка збіраў загадзя сфарміраваны ў крэпасці гарнізон. Замежныя падарожнікі і купцы дзівіліся на ўмацаваныя гарадкі, якія раптоўна ўзнікалі між лясоў і балот.

Драўляныя ўмацаванні беларускіх гарадоў XI—XVII стагоддзяў вызначаліся высокімі архітэктурнымі і фартыфікацыйнымі якасцямі. Асноўныя канструктыўныя і формаўтваральныя прынцыпы прыйшлі ў іх з народнага жылля. У сваю чаргу архітэктура драўляных абарончых збудаванняў аказала ўплыў на далейшае развіццё драўлянага дойлідства — на архітэктуру культавых пабудоў (эвалюцыя веж і купалаў у цэрквах, касцёлах, званіцах), грамадскіх аб'ектаў (ратушы, пажарныя вышкі), асобных элементаў сядзібных комплексаў (уязныя брамы і агароджы, вежавыя надбудовы, што фланкіруюць або вянчаюць сядзібны дом). Новую інтэрпрытацыю формы абарончай драўлянай архітэктуры знайшлі ў так званую эпоху гістарызму — у драўляным ампіры, мадэрне, эклектыцы.

# У ГОРАДЗЕ МЕНЕСКА

Мінскае замчышча будавалася з улікам супрацьстаяння працяглай асадзе ля месца ўпадзення Нямігі ў Свіслач. З паўночна-заходняга боку да яго падступала забалочаная тэрыторыя, перасечаная невялікім ручаём. Прыродныя ўмовы з пункту погляду фартыфікацыі былі зусім спрыяльнымі. У плане замчышча мела авальную форму. У паўднёвай частцы лініі ўмацаванняў знаходзіліся вароты, да іх вяла Вялікая вуліца (галоўная), якая за замчышчам разгаліноўвалася ў трох напрамках — на поўнач, захад і паўднёвы захад.

Археалагічныя даследванні паказалі, што земляны вал мінскай крэпасці перажыў два этапы будаўніцтва. Першапачаткова шырыня яго падножжа, насыпанага з буйназярністага пяску, складала каля 14 метраў. Унутраны схіл вала быў пакрыты дзірваном. Аднак у гады паходаў Яраславічаў і Уладзіміра Манамаха (1067 і 1085) мінчане пераканаліся, што памеры вала недастатковыя. Неўзабаве яго ўдвая пашырылі і значна павялічылі ў вышыню.

Падножжа вала мінскага замчышча, магчыма, было вымашчана каменнем. Уздоўж вонкавага краю папарна ў некалькі

радоў укладваліся масіўныя драўляныя плахі, чаргуемыя ў папярэчным напрамку бярвеннямі. Са знешняга боку вал дадаткова падпіраў шэраг вертыкальна ўкапаных слупоў. Унутраны схіл таксама мацаваўся масіўнымі бярвеннямі. Між унутранымі і знешнімі ўмацаваннямі перпендыкулярна асі вала ў дзевяць ярусаў укладваліся бярвенні з прамежкамі ў 20—30 см. Ярусы ў прадольным напрамку перакладваліся бэлькамі. Такая ўнутрывальная канструкцыя была шырока вядомай у заходніх славян. Асабліва часта яна прымянялася, калі ўмацаванні размяшчаліся побач з забалочанай або затопленай мясцовасцю, каб надаць валу дадатковую трываласць на выпадак стыхійнага бедства.

На думку Э. М. Загарульскага, які ажыццявіў найбольш значныя археалагічныя даследванні Мінска, профіль вала меў наступную канфігурацыю: з вонкавага боку — стромкі пад'ём пад вуглом 45—50° на вышыню 7—8 метраў, далей — роўная пляцоўка для кладкі сцен, якая пераходзіць у спуск унутр замчышча з двума прамавугольнымі ўступамі — тэрасамі. З паўднёвага боку, у напрамку вуліцы Вялікай, вал перарываўся праездам з двухвежавымі варотамі. Вежы злучаліся між сабой зрубнай устаўкай над варотамі, мелі чатыры ярусы, тры з іх — баявыя. Размяшчэнне тут варот і надворных вежаў традыцыйнае, пры гэтым канцы вала як бы заходзілі адзін за другі. Такі прыём меў вялікае значэнне для аховы варот — дзякуючы яму нападаючыя падвяргаліся дадатковаму фланговаму абстрэлу. У замчышчы Мінска левая частка вала рабіла паварот, што дазваляла з гэтага флангавага боку пабудаваць не толькі ўчастак сцяны, але і яшчэ адну вежу. Схілы вала непасрэдна ля варот умацоўваліся заборам з бярвення. Надваротныя вежы ўвенчваліся чатырохсхільнымі дранкавымі дахамі.

Па другой версіі (археолагі Ю. А. Заяц і Г. В. Штыхаў), якая ўлічвала, што пры двухвежавым варыянце ўскладнялася скразное перамяшчэнне абаронцаў над праездам, апошні быў аднавежавым. Аснову яго складала моцна выступаючая са знешняга боку сістэма зрубаў, перпендікулярная асі сцен. Гэта дазваляла вынесці вароты з плоскасці сцен, вызваліўшы такім чынам скразны праход па іх. Да таго ж зрубы ярусамі спускаліся па схілу вала, перашкаджаючы нападаючым хутка пераадольваць прастору варот. Увенчваючая дазорная вежа завяршалася дранкавым дахам, дахі прамежных зрубаў мелі канструкцыю на самцах.

Якімі былі сцены мінскай крэпасці? Археалагічны матэрыял не дае на гэта пытанне дакладнага адказу. У XI—XII стагоддзях драўляныя сцены многіх славянскіх гарадоў узнімаліся двух'яруснымі тэрасамі. Верхні ярус знадворку меў кансольны выступ, што ўскладняла штурмуючым пад'ём на сцены і за-

Субструкцыя вала мінскага замчышча





Уездная брама мінскага замчышча, варыянт I

бяспечвала лепшыя ўмовы абаронцам для адбіцця атак. З унутранага боку другі ярус меў выгляд абходнай галерэі для хуткага перамяшчэння абаронцаў. Такія сцены акружалі замак Манамаха ў Любечы (XI ст.), складалі драўляныя ўмацаванні Ноўгарада. Мяркуецца, што аналагічная канструкцыя была і ў мінскай крэпасці. Паколькі план яе меў авальную форму, вуглавыя вежы, відаць, адсутнічалі, за выключэннем адной, што размяшчалася там, дзе вал крута паварочваў да варот. Спусціцца з вала з унутранага боку, як і падняцца на яго, можна было па лесвіцах-драбінах.

Драўляны замак існаваў не адно стагоддзе. Дакументы сведчаць, што ён быў знішчаны пажарам у сярэдзіне XVI стагоддзя. Земляны вал знік у XVIII стагоддзі пры планіровачнай рэкан-



**Уездная брама мінскага замчышча, варыянт II**



**Уездная брама мінскага замчышча, варыянт III**

струкцыі горада, аднак асобныя яго участкі захаваліся аж да нашага часу. Памяць пра старажытную мінскую крэпасць адлюстравалася ў назвах вуліц Замкавай, Завальнай, Падзамкавай (усе яны цяпер не існуюць).

# У СТАРАЖЫТНЫМ ДЗЯДЗІНЦЫ

За высокім валам і рубленымі сценамі жылі людзі — воіны, гандляры, рамеснікі. Срабрылася на сонцы старое дрэва, адсвечвалі круглыя бакі бярвенняў, пакатыя дранкавыя шатры, зялянеў дзірван валоў. А за варотамі, з правага боку, цёмны фон дамоў разразаўся сілуэтамі яшчэ не закончанага збудавання зусім з іншага матэрыялу. Гэта быў час (канец XI стагоддзя), калі ў многіх гарадах Старажытнай Русі айчыннымі і візантыйскімі майстрамі будаваліся белакаменныя храмы.

Ад невялікай плошчы, што выконвала, магчыма, ролю ўнутрыкрэпаснога рынка, разыходзіліся тры вуліцы. Самая доўгая ішла на паўночны захад праз увесь дзядзінец, які забудавалі ўмелыя майстры. Некалькі напластаванняў драўляных маставых сведчыць пра тое, што вуліцы былі добраўпарадкаваныя. Іх асновай служыў каркас з бярвенняў, складзеных клеткамі і злучаных для трываласці «у чашку». Па іх рабіўся насціл з плах, прычым тарцы запускаліся ва ўкладзенае па краю абвязачнае бервяно, якое ў сваю чаргу замацоўвалася калочкамі. Калі пабудовы падступалі да вуліцы ўшчыльную, то насціл урубаўся ў паз, выдаўбаны ў ніжнім бервяне дома.

Існавала цэлая сістэма водаадвода: драўляныя трубы, жалабы, латкі — нізінная мясцовасць, забалочанасць патрабавалі ўмела арганізаванага добраўпарадкавання вуліц. Гэтым жа, відавочна, тлумачыцца і шырокараспаўсюджанае машчэнне двароў і сядзіб дзядзінца. У вулічным добраўпарадкаванні прыкметны рысы, характэрныя для горадабудаўніцтва Старажытнай Русі. У першую чаргу гэта мае дачыненне да тых гарадоў, якія знаходзіліся ў падобных з Мінскам прыродных умовах, — Ноўгарада, Старой Ладагі, Гродна.



**Канструкцыя насціла**

У XI—XII стагоддзях уздоўж вуліц дзядзінца размяшчаліся жылыя і гаспадарчыя пабудовы, аб'яднаныя ў сядзібы (двары). Пларіровачнай адзінкай дваровага комплекса была зрубная ячэйка. Зрубы жылых пабудоў, некалькі буйнейшыя за гаспадарчыя (6×6 метраў супраць 4×4 метры), ставіліся ўсутыч адзін да другога, утвараючы замкнуты комплекс — вяночны двор, найбольш старажытны тып сядзібнай забудовы славян. Акрамя жылых памяшканняў (хата і сені) у дваровы комплекс уваходзілі пабудовы для захавання хлеба, прадуктаў і хатняга скарба (клеці, істопкі), для хатняй жывёлы і коней, разнастайныя навесы, павеці для дроў, калёс, сена і г. д. Іх памеры і колькасць залежалі ад заможнасці гаспадара і велічыні сям'і.

Шчыльная забудова вуліц і двароў ускладняла вядзенне новых будаўнічых работ, таму зрубы даводзілася рыхтаваць у лесе і прывозіць часткамі. Гатовыя зрубы да таго ж з'яўляліся прадметам рыначнага гандлю. Пра тое, што і будынкі мінскага дзядзінца папярэдне збіраліся дзесці асобна, сведчаць выяўленыя археолагамі меткі на бярвеннях у выглядзе вертыкальных засечак.

У народным дойлідстве здаўна вядомы прыём, калі замест падмурка пад будынак кладуць тоўстыя дубовыя бярвенні, якія ўтвараюць першы вянец — «лежні», «падруба». Старажытныя мінскія градарубы рабілі больш устойлівыя асновы — апорныя пляцоўкі. На выраўненую пляцоўку па перыметру будучага будынка, але некалькі выходзячы за памеры плана, клалі вянец бярвенняў і замацоўвалі ўбітымі побач калочкамі і папярэчнымі лагамі. На вянцы па вуглах урубалі каратышы з бярвенняў, якія служылі апорамі вуглоў будучага збудавання. На хісткім забалочаным і падтапліваемым грунце такая канструкцыя забяспечвала раўнамернае размеркаванне вагі будынка, магчымасць вентыляцыі яго апорных частак, ахоўвала зруб ад уздзеяння неаднолькавай усадкі.

У старажытным дзядзінцы, мяркуючы па археалагічных знаходках, былі тры тыпы драўляных канструкцый сцен: зрубныя (у асноўным жылыя пабудовы), слупавыя і каркасныя. Зрубы жылля рабіліся з кругляка, вугал з астаткам «у чашку». Для падгонкі бярвенняў па даўжыні ўверсе выбіраўся паз — «драчка». Гэты старажытнейшы прыём кладкі зруба, што ўжываўся аж да пачатку XX стагоддзя, зваўся «драчкай уверх». Драчка ў верхней частцы бервяна лёгка выбіралася пры яго апрацоўцы, але такі спосаб меў недахоп — у пазы між бярвеннямі магла трапіць вільгаць атмасферных ападкаў. Пазней, калі асвоілі працаёмкі прыём рубкі сцен, які патрабаваў неаднаразавай падгонкі і выверкі — «драчкай уніз», выкарыстоўвалі абодва спосабы: на ўчастках сцен, заслоненых навіссю страхі, бярвенні клалі драчкай уверх, а ніжэй гэтай мяжы — драчкай уніз.



Тып зрубнай канструкцыі



Тып слупавой канструкцыі

У гаспадарчых пабудовах, пры збудаванні прырубаў да чатырохсценкаў, бярвенчатых агарож (замёты, тыны) ужывалася найбольш архаічная слупавая канструкцыя. Бярвенні злучаліся не праз рублены замок, а запускаліся ў вертыкальны паз шулы. Шулы ўкапваліся ў зямлю або праз шып у ніжняй частцы ўстанаўліваліся на вуглы апорнага вянца. Канструкцыя сцен «у шулы» ў народным дойлідстве захавалася да нашых дзён як найбольш простая і зручная для падсобных пабудоў.

Разнастайныя лёгкія будынкі — куратнікі, летнія загарадзі для авечак, свіней, паветкі, сені хат — часта рабілі каркаснымі. Аснову складалі вуглавыя слупы і бярвенне абвязкі, сцены ж плялі з яловых лапак, вербалозу, арэшніка. Плеценыя пабудовы выяўлены археолагамі і на мінскім замчышчы.

Мяркуючы па знойдзеных рэштках канструкцый дахаў, у тым ліку «какошынах» (кароткая жэрдка з суком на канцы, якая прызначалася для падтрымкі драніцы), пабудовы дзядзінца мелі дахі «на самцах». Адна з пераваг такой канструкцыі заключалася ў тым, што яна дазваляла спалучыць перакрыццё (бэлькі са столлю) і пакрыццё (уласна дах). Гэта было надзвычай важна для курнай хаты, дзе патрабавалася свабодная прастора ў верхняй частцы для пад'ёму дыму. Скляпеністая прастора ўтваралася дахам, зробленым «на самцах» («закот») і праз адзін, два і тры самцы. Укладзеныя паверх у два-тры слаі драніцы стваралі шчыльнае перакрыццё, паміж слаямі пракладвалася для гідраізаляцыі бяроста.

У жылых памяшканнях мінскага дзядзінца мелася падлога, прычым дастаткова дасканалай канструкцыі. Тоўстыя кароткія



**Тып даху на самцах**

дошкі ўкладваліся на лагі і мацаваліся да іх драўлянымі нагелямі (стрыжанямі). Канцы пры гэтым запускаліся ў чвэрць, выбраную знутры ў бярвеннях сцен. Каб зменьшыць знос дошак, іх слалі па асі дзвярэй, да таго ж так лягчэй было падтрымліваць чысціню ў памяшканні. Узровень падлогі заўжды быў вышэйшы за знешні ўзровень зямлі, таму перад уваходам рабілі ганак з прыступкамі, урубленымі ў тоўстыя кароткія касауры.

Яшчэ і сёння ў традыцыйных сельскіх пабудовах можна сустрэць дзверы, аснову якіх складае частка драўлянага ствала з сукамі. Дзверы ўстанаўліваюцца ў паз, выбраны на вуглу шулы, і мацуюцца да яе вымачанымі ў вадзе вербалознымі, арэхавымі пруткамі (гужоўкай) або жалезнымі клямарамі. Такая канструкцыя часта згадваецца ў летапісах, матэрыялах інвентароў — дзверы «на бегуне» (г. зн. на асі). Вось часта мела ў ніжняй частцы шып, што ўваходзіў у тарэц паза — «падпятнік». Тады дзверы называліся «на падпятніку». Дзверы «на бегунах» былі шырока распаўсюджаны ў старажытным Мінску.

Фрагменты дзвярных палотнаў, якія захаваліся, сведчаць пра тое, што рабіліся дзверы добра. Тры шырокія дошкі змацоўваліся паміж сабой парай запушчаных у паз планак. Тое, што планкі не былі паралельныя паміж сабой, а разыходзіліся адносна гарызантальнай асі, забяспечвала моцнасць дзвярнога палатна. Замест асі ў крайней дошцы ўверсе і ўнізе меліся шыпы, якія і забяспечвалі вярчэнне і ўстаноўку дзвярэй у праёме.

У старажытнасці зямляначнае і паўзямляначнае жыллё славян не мела акон. Ролю светлавога праёма выконвалі дзверы,



**Канструкцыя падлогі ў жылых збудаваннях старажытнага Мінску**



**Канструкцыя парога і дзверы**

таму пабудову размяшчалі такім чынам, каб яны знаходзіліся з сонечнага боку. З развіццём наземных зрубных дамоў з'яўляюцца вокны на паўбервяна. Размяшчэнне іх вызначалася рацыянальнасцю і строгай адпаведнасцю функцыянальнаму прызначэнню жылля.

Здаўна склалася традыцыя асвятляць галоўным чынам тое месца, дзе больш за усё даводзілася працаваць. Такім месцам было прадпечча. Тут гаспадыня праводзіла шмат часу за прыгатаваннем ежы, корма для жывелы. У раёнах з халоднай зімой, на поўначы і ўсходзе Русі, каб рацыянальней выкарыстоўваць цяпло печы, яе разварочвалі топкай у супрацьлеглы ад дзвярэй бок. А насупраць дзвярэй у тарцовай сцяне прасякалі маленькае акенца, праз якое і асвятлялася прадпечча. Пазней сталі асвятляць і «покуць» — вугал па дыяганалі ад печы, дзе сыходзіліся лавы, стаяў стол, уверсе віселі абразы. Справа ад яго, ля насціла для сна, гаспадыня прала пражу, тут працавалі і іншыя члены сям'і. Так з'явілася яшчэ адно ваконца, а ўсяго іх стала тры — на тарцовым, арыентаваным да вуліцы фасадзе. Паступова сярэдняе ваконца павялічваецца, абрамляецца касякамі і падаконнай дошкай, знадворку абрастае ліштвамі — узнікае шырока вядомае на Русі краснае (прыгожае, вялікае), касячнае (ад «касякі») акно.

У народным дойлідстве беларусаў у размяшчэнні акон адзначаюцца іншыя заканамернасці. Больш мяккі клімат дазваляў ставіць печ топкай да дзвярэй. Так лягчэй было падтрымліваць чысціню ў хаце: смецце ад прадпечча лёгка вымяталася за парог. Вокны прасякаліся ў падоўжанай сцяне, супрацьлеглай топ-

цы печы (яны выхадзілі ў двор), затым у сумежных сценах покуці і насупраць палацяў.

Вузкія, на паўбервяна, аконцы зачыняліся («завалакваліся») дошчачкай, чаму і называліся валаковымі. Гэтая дошчачка стала правобразам будучых аканіц. У XVI—XVIII стагоддзях нават у дамах панскіх сядзіб былі вокны з аканіцамі, якія засоўваліся. Праз валаковыя аконцы асвятляліся прысадзістыя хаткі мінскага дзядзінца.

Найбольш рацыянальныя, прадуманыя, праверапыя часам традыцыі ўладкавання народнага жылля перажылі стагоддзі. Яны адлюстраваліся і ў хатах канца XIX—пачатку XX стагоддзя, якія і цяпер можна ўбачыць на старых вуліцах Мінска і іншых гарадоў Беларусі, у Рэспубліканскім музеі народнай архітэктуры і побыту.

Вось як выглядаў усярэдзіне мінскі жылы дом у XI—XIII стагоддзях. Глінабітная печ на падмурке з калод мела скляпеністае завяршэнне без коміна (палілася па-чорнаму). Яна нагадвала яшчэ больш старажытны тып печы-каменкі з плоскім, як патэльня, верхам. (Менавіта з такога тыпа развівалася руская варачная печ). На знешнім яе рагу стаяў тоўсты высокі слуп. Робячы печ, яго выкарыстоўвалі для мацавання апалубкі. У інтэр'еры жылля пячному слупу належала важная роля. Да яго пад вуглом сыходзіліся брусы, на якія абапіраліся нары, часта двух'ярусныя. Верхні ярус пазней ператварыўся ў шырока вядомыя ў народным жыллі палаці (насціл, што адным канцом абапіраўся на край печы, другім — падвешваўся да столі), а верхні брус выкарыстоўваўся для навешвання палатнянага полага — так спальнае месца адгароджвалася ад агульнай часткі жылля. Знаходзячыся ў цэнтры хаты, слуп з'яўляўся і рытуальным месцам: на ім чаравалі, варажылі, рабілі замовы. Нярэдка яго ўпрыгожвалі мудрагелістымі разнымі ўзорамі.

На ўсю даўжыню сцен рабіліся лавы з тоўстых колатых плах, пакладзеных на калоды або на сукі-кансолі, урубленыя ў сцены. У вялікіх сем'ях на лавах спалі. У іх рабіліся розныя выразы, адтуліны для замацавання прылад працы.

На покуці стаяў стол. У хатах з глінабітнай падлогай ён быў на ножках-стойках, укапаных у зямлю. У старадаўніх жытлах яго замяняў шырокі глінабітны выступ. Традыцыйная лаўка ля стала таксама замацоўвалася ножкамі ў грунт.

У кухонным куце на сценах размяшчаліся паліцы для посуду, хлеба.

Як бачым, усе элементы мэблі былі цесна звязаны з канструкцыяй жылля — і падлога, і палаці, і лавы, і стол, і паліцы на сценах. Наогул слова «мэбля» (ад лацінскага mobile — рухомы) мала падыходзіць для характарыстыкі інтэр'ера старажытна-



**Сядзіба пачатку XII ст. у Мінску. Рэканструкцыя**

га жылля Мінска. У мэблю яго элементы пертвараюцца паступова. З цягам часу цяжкая лава становіцца на ножкі, набывае спінку, падлакотнікі і пертвараецца ў канапу. Прысценныя паліцы замяняюцца вуглавымі шафкамі або насценным буфетам, палаці — драўляным ложкам.

Верхняя частка інтэр'ера выглядала так. Высокае скляпенне з закураных бярвенняў-самцоў, уздож сцен, на шастах, — сухія дровы, старыя кажухі. Дым, калі палілі ў курнай печы, выпускалі праз дзверы або ў спецыльную фортку над імі, якая зачынялася на засаўку або мехам з саломай, а пазней, са з'яўленнем коміна, выводзілі ў сені.

Такую хату меў звычайны гараджанін. У начальніка ж дружыны, князя, гарадскога феадала двор быў большы па плошчы, жыллё складалася з мноства святліц, клецяў, сеняў, зрубы ставіліся ў два, а то і ў тры ярусы.

Важную ролю ў сядзібнай забудове мінскага дзядзінца ігралі платы, агароджы. Іх наяўнасць дыктавалася неабходнасцю ў выпадку вайны адбівацца ад ворага, зачыніўшыся ў сваім двары. Найбольшае распаўсюджанне атрымалі моцныя агароджы з бярвенняў — частаколы, тыны — яны адлюстроўвалі тагачасныя ўяўленні аб непрыступнасці і надзейнасці. Пры майстраванні частакола слупы запускаліся на пэўную глыбіню ў спецыяльна выкапаную канаву і ўсутыч падганяліся адзін да другога выбаркай паза — драчкі. Ставіліся таксама і тыны з гарызантальных бярвенняў, замацаваных у шулах. У двор можна было трапіць праз моцныя дашчаныя вароты з магутнымі вушакамі, звязанымі зверху перакладзінай. Менен адказныя ўчасткі агароджваліся плятнём або плотам з жардзяных праслаў.

Забудова старажытнага мінскага замчышча адлюстроўвала як рысы, характэрныя для драўлянай архітэктуры старажытнарускай дзяржавы ўвогуле, так і нацыянальныя асаблівасці, якія зараджаліся і атрымалі затым развіццё ў традыцыйным народным жыллі.

# У ВАКОЛЬНЫМ ГОРАДЗЕ

Мы ўжо ведаем, што да варот крэпасці ішла вуліца Вялікая. Наогул у паўднёва-заходняй частцы дзядзінца сыходзіліся некалькі вуліц: з захаду цягнулася Койданаўская, з паўночнага захаду — Ракаўскі тракт, з поўдня — Лошыцкая, з паўднёвага ўсходу — Казьмадзям'янаўская, з усходу — Траецкая, утвараючы вакол замка радыяльную сістэму. Месца іх скрыжавання ля Нямігі атрымала назву Нямігскага, або Ніжняга рынку. Сюды паступова перамясціўся з цеснага дзядзінца гандаль. Уздоўж вуліц-дарог пачала фарміравацца забудова, якая складалася з сядзібаў і дамоў рамеснікаў, гандляроў — так званыя пасады, або навакольны горад (размешчаны навокал замка). Найбольш старажытнымі былі Траецкае і Ракаўскае прадмесці. Першае размяшчалася насупраць замка на левым беразе Свіслачы на ўзвышшы, што звалася Траецкай гарою.

Пасадская забудова тут бярэ пачатак у XII стагоддзі. На тым месцы злучаліся дарогі з Вільні, Лагойска і Полацка, Барысава і Смаленска і ўліваліся ў Траецкую вуліцу. Пазней, у XVI стагоддзі, разам з вуліцай Нямігскай, якая знаходзілася на супрацьлеглым беразе, яна ўтварыла галоўны дыяметр горада. Цэнтрам драўлянай забудовы ў XIII—XIV стагоддзях робіцца Траецкая царква, што перайшла ў пачатку XVII стагоддзя да ўніятаў. Побач ствараецца жаночы базільянскі манастыр, драўляныя будынкі якога замяняюцца мураванымі толькі ў пачатку XIX стагоддзя.

Аднак адмежаванае ад асноўнай часткі горада ракой, Траецкае прадмесце забудоўвалася павольна. Значна больш інтэнсіўна развівалася прадмесце, што размяшчалася ў непасрэдным кантакце з Нямігскім рынкам, — Ракаўскае, фарміраванне якога таксама адбывалася ў XII—XIII стагоддзях. Галоўнай воссю раёна быў Ракаўскі тракт. У XVI стагоддзі аснову планіроўкі тут складалі тры промні: вуліцы Няміга, Ракаўская, Уваскрасенская. Апошняя вяла на поўнач у найстаражытнейшую частку — Пятніцкі канец, названы так у гонар вядомай тут з XV стагоддзя царквы Параскевы Пятніцы і звязаны з замкам вуліцай Замкавай. У пачатку XVI стагоддзя пасля бітвы пад Клецкам у 1506 годзе на Пятніцкім канцы пачынаюць сяліцца палонныя крымскія татары, і гэта мясцовасць атрымлівае назву Татарскі канец. Уваскрасенская вуліца (цяпер вуліца Вызвалення) пераходзіла ў Вялікую

Татарскую (цяпер вуліца Дзімітрава). У 1900 годзе на тым месцы, дзе цяпер стаіць Палац спорту, была пабудавана муравая мячэць. У адрозненні ад іншых гістарычных раёнаў горада Ракаўскае прадмесце захавала фрагменты планіровачнай структуры XVI—XVII стагоддзяў, хоць будынкі на ім узніклі на двадтры стагоддзі пазней.

У XVI стагоддзі фарміраванне радыяльнай планіроўкі вакол замка заканчваецца, горад пачынае шукаць новыя шляхі развіцця.

# ДАЛЕЙШАЕ РАЗВІЦЦЁ

Для беларускіх гарадоў XIV—XVI стагоддзі — перыяд бурны, актыўны: расце іх палітыка-адміністрацыйны статус, квітнеюць рамёствы, гандаль, павялічваецца колькасць насельніцтва, у горад ідуць вольныя сяляне. Многім гарадам і мястэчкам Беларусі даравана магдэбургскае права (права на самакіраванне).

Цяпер старая горадабудаўнічая схема старажытнарускіх гарадоў, што складалася на аснове традыцый Кіеўскай Русі (у цэнтры — дзядзінец, да яго прылягае гандлёвая плошча, якая злучае жыццёва важныя звенні вакол княжацкай рэзідэнцыі і яго дружыны), прыходзіць у неадпаведнасць з дэмакратычнымі тэндэнцыямі гарадскога самакіравання. Гораду рамеснікаў і цэхавых аб'яднанняў патрабуецца плошча для сходаў, гандлю, гарадскім магістратам — прадстаўнічы будынак. Дамінуючую ролю ў забудове гарадской плошчы пачалі займаць ратушы, шырока развіваюцца комплексы гандлёвых радоў. Будуюцца цэрквы і манастыры.

Усе названыя тэндэнцыі характэрны і для Мінска. У гэты час узвышаная тэрыторыя насупраць Ніжняга рынка робіцца аб'ектам горадабудаўнічых інтарэсаў. Горад уступіў у новы этап свайго развіцця. Буйныя каталіцкія манашаскія ордэны, адміністрацыйны апарат, суды, бойкі гандаль не маглі больш існаваць у межах старога замчышча і прылеглых прадмесцяў. Яны адчувалі патрэбу ў манументальных збудаваннях, якія падтрымлівалі б аўтарытэт царквы і ўлад. Плато ў паўднёвай частцы горада найлепш адпавядала гэтым патрэбам. На працягу XVI—XVIII стагоддзяў тут сфарміраваўся архітэктурны ансамбль для забудовы цэнтраў гарадоў у Вялікім княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай, гарадах-магдэбургіях Еўропы. Амаль прамавугольная пло-

шча абмяжоўвалася з захаду Францысканскай вуліцай, з усходу — Дамініканскай, з поўдня — Койданаўскай. У цэнтры ўзнялася ратуша, першапачаткова драўляная, з XVIII стагоддзя — мураваная. У ёй размяшчаліся гарадскі магістрат, суд, а ў сутарэнні — турма. Неад'емны элемент ратушы — вежа ў некалькі ярусаў з дазорнай пляцоўкай і гадзіннікам. На ўсходнім баку знаходзіліся мужчынскі бернардзінскі кляштар і жаночы і мужчынскі базільянскія, апошні са Святадухаўскай царквою. У паўднёва-ўсходняй частцы стаялі побач дамініканскія касцёл і кляштар. Заходнюю частку плошчы займаў езуіцкі калегіум-касцёл і кляштарныя карпусы. Каля іх пачыналіся жылыя і гандлёвыя будынкі. Так узнік Верхні горад, ансамбль якога ўвасабляў змены ў грамадскіх адносінах, а яго пабудовы паказвалі сацыяльную самавітасць пануючых класаў, духавенства, розных саслоўяў гандляроў і рамеснікаў.

У XIV—XVI стагоддзях працягвае развівацца драўляная архітэктура. Структура сядзібы гараджаніна яшчэ захоўвае выяўленую сельскагаспадарчую накіраванасць. У прывілеі на дараванае гораду магдэбургскае права значнае месца адведзена перадачы ў карыстанне мінскім мяшчанам сельскагаспадарчых угоддзяў. Разам з тым хутка расце колькасць рамеснікаў. Іх жыллё вылучаецца паміж іншых каляровымі размаляванымі шыльдамі. Статут рамеснікаў патрабаваў «...вывешваць мядніцы і іншыя рамесніцкія адзнакі ля ўласных дамоў на табліцах».

Апісанне драўлянай забудовы гэтага перыяду захавалі актавыя матэрыялы. У інвентары Узнясенскага кляштара 1579 года ўказана, што ў кляштарнай сядзібе было некалькі хат, асобная кухня, некалькі клецяў, хлявы і вялікі гуменны комплекс, чым яна мела падабенства на звычайны маёнтак перыяду «Статуту на валокі» — зямельнай рэформы 1557 года. Дакументы XVI—XVII стагоддзяў сведчаць, напрыклад, пра тое, што мяшчанка Крывіцкая ў 1582 годзе валодала жылым домам на тры святліцы, пякарняй, лазняй, броварам і склепам, а на сядзібе пана Казлоўскага ў 1675 годзе — дом з двух хат, пазней дабудавана яшчэ трэцяя хата, стайня і цагляны склеп.

На жаль, малюнкаў з адлюстраваннем драўлянай сядзібнай забудовы Мінска, якія адносіліся б да гэтага перыяду, няма. Аднак, звярнуўшыся да графічных аналагаў іншых гарадоў Беларусі (напрыклад, да «Чарцяжа горада Віцебска 1664 года») і дапоўніўшы іх апісаннямі інвентароў, можна ўявіць, як яна выглядала. Цесна стаялі ўздоўж вуліц мяшчанскія двары. Тыя, што бліжэй да цэнтру горада, дзе гаспадары больш заможныя, мелі большую колькасць пабудоў. Жылыя дамы вылучаліся сваімі памерамі, дамінавалі ў комплексе сядзібы. Побач з дранкавымі варотамі часта знаходзілася крама з распісной шыльдай. На



**Тып адназрубнага жылога дома гараджаніна. «Чарцёж» г. Віцебска 1664 г.**



**Тып жылога дома гараджаніна з сенямі-трысценам. «Чарцёж» г. Віцебска 1664 г.**

ўскраінах двары былі больш сціплыя, коміны на стрэхах хат адсутнічалі. На выездзе, ля заставы, размяшчалася карчма. Тут у вазоўні пахла сенам і конскім потам, у шынку стаяў пах лучыны і вэнджаных кумпякоў.

Відаць, невыпадкова легенда прыпісвае Менеску «прафесію» млынара. Сярод вытворчых збудаванняў сярэдневяковага Мінска прыкметнае месца займалі млыны. У грамаце Сігізмунда III за 1592 год змяшчаецца дазвол на будаўніцтва двух вадзяных млы-



**Тып двухзрубнага жылога дома згодна «чарцяжу» г. Віцебска 1664 г.**



**Жылы дом і хлеў. «Чарцёж» г. Віцебска 1664 г.**

ноў на рэках Крупіцы і Пярэспе — мукамольнага і папяровага. (Адзначым, што згаданая Пярэспа ў канцы XVI стагоддзя, мусіць, была даволі паўнаводнай, калі магла круціць млынавыя жорны.) Вадзяныя млыны будаваліся ў комплексе з мастамі, паромамі, карчмамі, броварамі, лесапільнямі (тартакамі), сталярнямі, прыстасаванымі для вырабу дахавых драніц. Пакуль прасоўвалася чарга, мужыкі, пакінуўшы падводы з мяшкамі, захо-



**Тып трохзрубнага дома
згодна «чарцяжу» г. Віцебска 1664 г.**



**Шматзрубны тып жылля
Г-падобнага плана. «Чарцёж» г. Віцебска 1664 г.**

дзілі ў тут жа размешчаную харчэўню падмацавацца і правесці час за бяседай.

Навальніцай пранеслася над горадам семнаццатае стагоддзе. Руска-польская вайна, голад, разруха, папялішчы. Аднак эканоміка і палітычны прэстыж Мінска хутка аднавіліся. Аўстрыйскі пасол Аўгусцін Мейерберг, праязджаючы праз Мінск у 1661 годзе, пісаў: «Зрабіўшы яшчэ 70 вёрст па лясной пустэльні ...мы прыехалі ў Мінск, галоўны горад Мінскага ваяводства, размешча-



Жыллё заможнага мешчаніна. «Чарцёж» г. Віцебска 1664 г.



Т-падобны тып жылля згодна «чарцяжу» г. Віцебска 1664 г.



**Жыллё гарадскога феадала «Чарцёж» г. Віцебска 1664 г.**

ны на пагорках і рацэ і ўдастоены гонару мець Вярхоўны суд для ўсёй Літвы, акрамя Вільні...»

Вось якое ўражанне зрабіў горад на пасла польскага караля, які ў 1678 годзе наведаў Мінск па дарозе ў Маскву: «...Гэты горад вялікі, што шырока раскінуўся на пагорках і далінах... Ды не кепскія і даволі шматлікія цэрквы... Галоўнае ўпрыгожванне плошчы — ратуша, якая стаіць пасярэдзіне і акружана мноствам крамаў...» Горад меў значныя мураваныя збудаванні. Стольнік П. А. Талстой пісаў у 1697 годзе: «Збудаванняў мураваных у Мінску нямала... У Мінску ёсць шмат дамоў мураваных і ў радах, у якіх гандлююць, — крамаў мураваных...»

І ўсё ж у агульнай забудове працэнт мураваных дамоў быў невялікі, асноўную масу складалі драўляныя жыллёвыя і гаспадарчыя пабудовы, што цясніліся ў прадмесцях. З прычыны скучанасці часта ўзнікалі пажары.

Васемнаццатае стагоддзе паставіла горад перад новымі выпрабаваннямі. У полыме Паўночнай вайны (1700—1721) гіне значная частка драўлянай забудовы, цяжкія эпідэміі знішчваюць вялікую колькасць чалавечых жыццяў. Прыходзяць да заняпаду рамёствы і промыслы, гараджане зноў вяртаюцца да земляробства.

Пераадольваючы вынікі пасляваеннага разбурэння, горад пачынае хутка будавацца. Новыя дамы з'яўляюцца на Верхнім рынку, аднаўляюцца Ракаўскае і Траецкае прадмесці. У 1790 годзе ў Мінску жыло каля 7 тысяч чалавек, было 980 будынкаў.

У 1792 годзе Мінск увайшоў у склад Расійскай імперыі. У наступным годзе была заснавана Мінская губерня. Горад стаў важным адміністрацыйным і гаспадарчым цэнтрам вялікай правінцыі. Але ён усё яшчэ захоўваў шэраг феадальных рыс. Гэта і рэшткі драўлянай крэпасці, вала, што акружаў вакольны горад, і паўкальцо земляных умацаванняў на паўднёвай ускраіне, і мноства вузкіх, крывых вуліц. У 1800 годзе Мінск займаў у даўжыню 2,5 вярсты пры шырыні ад 160 да 240 сажняў *. Заселеная тэрыторыя складала каля 300 дзесяцін**. З 1009 жылых дамоў мураваных было толькі 39, драўляных — 970. Культавых, манастырскіх, адміністрацыйных, вытворчых (млыны, кузні і г. д.) збудаванняў налічвалася ў агульнай колькасці 48. Насельніцтва горада складала каля 10 тысяч чалавек.

---

*Вярста — старажытная руская мера даўжыні, роўная 500 сажням — 1,0668 км; сажань роўны 2,1336 м.

*Дзесяціна — старажытная руская мера плошчы, роўная 3 200 квадратным сажням.

# МІНСК У XIX СТАГОДДЗІ

Дзевятнаццатае стагоддзе стала новым этапам у жыллёвым будаўніцтве Мінска. У пачатку гэтага перыяда для многіх губернскіх і павятовых гарадоў Расіі з'явілася магчымасць здзейсніць шырокую праграму горадабудаўнічых пераўтварэнняў. Сутнасць яе заключалася ў дабраўпарадкаванні, якое вялося цэнтралізавана на аснове некалькіх узорных праектных рашэнняў. Пануючым архітэктурна-горадабудаўнічым стылем у той час стаў ампір (ад «імперыя»).

Пачалося планамернае пераўтварэнне забудовы Мінска, яе ўпарадкаванне ў духу лепшых сусветных традыцый горадабудаўнічай школы канца XVIII — першай палавіны XIX стагоддзяў. Першы генеральны план быў накіраваны на знішчэнне земляных умацаванняў у заходняй частцы, на поўдні і паўднёвым усходзе горада, стварэнне геаметрычнай сеткі вуліц, іншага горадабудаўнічага і кампазіцыйнага цэнтра (гарадской плошчы), а таксама на вызначэнне новага кірунку забудовы (на паўднёвы ўсход, уздоўж Свіслачы). Аднак перабудова горада ў першай палове XIX стагоддзя ішла марудна. У шэрагу выпадкаў яна была вымушанай мерай, як, напрыклад, пераўтварэнні на Траецкай гары пасля пажару 1809 года.

У 1809 годзе распрацоўваецца план забудовы кварталаў. Хуткаму горадабудаўнічаму развіццю Мінска па-ранейшаму перашкаджаюць царкоўнае, манастырскае і феадальнае землекарыстанне. Аднак сацыяльна-эканамічныя змены, што абумоўлены зараджэннем капіталістычных адносін, закранаюць і воблік горада. Калі ў XVIII стагоддзі ў цэнтральнай частцы размяшчаліся дамы і сядзібы буйных феадалаў і манастыроў, то к 30-ым гадам XIX стагоддзя ў ліку 65 домаўладальнікаў на Высокім рынку і цэнтральных вуліцах (Францысканскай, Дамініканскай, Койданаўскай, Захар'еўскай, Юр'еўскай) толькі пяць былі сярэднепамеснымі дваранамі, астатнія — чыноўнікі, купцы, мяшчане. Да канца першай паловы гэтага стагоддзя Мінск стаў тыповым губернскім купецка-мяшчанскім горадам. З 1462 дамоў 1212 належалі цэхавым рамеснікам, мяшчанам, адстаўным ваеннаслужачым. Горад вырас тэрытарыяльна, развіваючыся не толькі ва ўсходнім і паўднёвым, але і ў паўночна-заходнім напрамку. Выраўноўваліся крывыя вуліцы і завулкі, забудоўваліся пусткі. Пераважная большасць драўлянай за-

будовы і яе вялікая шчыльнасць па-ранейшаму з'яўляліся прычынамі частых пажараў. Асабліва моцна пацярпеў Мінск ад гэтага ў 1835 годзе.

Пра тое, што сабой уяўляў горад у першай палове мінулага стагоддзя, чытаем у П. Шпілеўскага: «Мінск належыць да ліку вялікіх і прыгожых гарадоў Заходняй Расіі і пры цяперашняй сваёй добраўпарадкаванасці і абноўленым выглядзе пасля пажару 1835 года можа быць названы сталіцай Беларусі: ён больш вялікі і франтаваты за Магілёў і Віцебск. За выключэннем Траецкага прадмесця, Татарскага канца і асобных іншых глухіх завулкаў па ўскраінах горада, у Мінску ўсе дамы мураваныя і большай часткай вельмі вялікія, а вуліцы даволі гладка выбрукаваны і трымаюцца вельмі чыстымі. Перад вамі раскідваецца панарама некалькіх гор, пагоркаў і крутых абрываў, усланых штучнымі і натуральнымі газонамі, вялікімі садамі, аранжарэямі, раскошнымі кветнікамі, што амываюцца водамі звілістай, як змейка, Свіслачы... Па гарах, па пагорках красуюцца будынкі то высокія і шырокія, то вузкія і прадаўгаватыя, з чарапічнымі дахамі пад густ сярэдніх стагоддзяў, то, нарэшце, чысценькія, ахайныя зялёныя або жоўтыя домікі з чырвонымі дахамі, узорчатымі аканіцамі, крацістаю агароджаю...» Хутчэй за ўсё тут гаворка ідзе пра цэнтральную частку горада, перабудаваную пасля пажару. Ускраінная вуліца Ракаўская выглядае ўжо не так прывабна: «Вуліца гэта даволі гразная і населена большай часткай цэхавымі мяшчанамі...» Яшчэ адно сведчанне сучасніка — падарожніка-іншаземца, што пабываў у Мінску ў пачатку XIX стагоддзя: «Многія грамадскія будынкі змураваныя з цэглы, але частка хат абывацеляў драўляныя». Выгляд драўляных кварталаў, што размешчаны на ўскраінах, перададзены ў кнізе С. Кавалеўскай «Абразкі Мінскія». Яна пісала, што тут было многа гразкіх дворыкаў, у якіх жылі, як у вёсцы. За выключэннем цэнтральных кварталаў, горад праразаўся агародамі, з усіх бакоў яго акружалі палі і выганы.

Працягам ускраін з'яўляліся Камароўка, Пярэспа, Раманава, Ляхаўка. Пераважная колькасць драўлянай сядзібнай забудовы з агародамі і садамі стрымлівала развіццё добраўпарадкавання. Так, да сярэдзіны мінулага стагоддзя на 25 тысяч жыхароў прыпадала толькі 90 калодзежаў. Значная большасць гараджан карысталася вадой са Свіслачы.

У другой палове XIX стагоддзя Мінск працягвае хутка расці і становіцца самым буйным горадам Беларусі. У 1887 годзе ў ім пражывала амаль 91 тысяча чалавек, у той час як, напрыклад, у Віцебску — 66 тысяч, Магілёве — 43 тысячы, у Гродна — 41 тысяча. Забудова вялася галоўным чынам у паў-

днёва-заходнім напрамку, у раёне скрыжавання Маскоўска-Брэсцкай і Лібава-Роменскай чыгунак. У цэнтры горада мураваліся пераважна двух- і трохпавярховыя будынкі, пашыралася сетка тратуараў з цвёрдым пакрыццём, стала больш брукаваных вуліц. У 1874 годзе з'явіўся водаправод.

Драўлянае жыллёвае домабудаўніцтва пачало развівацца ў рэчышчы грамадзянскай архітэктуры, у тым ліку і мураванай. Выпрацаваліся агульныя планіровачныя, канструктыўныя і архітэктурна-пластычныя, г. зн. стылёвыя, рысы, у выніку чаго ў драўляных жылых будынках пачалі ўвасабляцца пластычныя матывы мураванай архітэктуры класіцызму. Гэта прывяло да перапрацоўкі асобных канструктыўна-пластычных асаблівасцей драўлянай архітэктуры: круглае бярвенне замянілася брусамі, знік вугал з астаткам, зашываліся карнізы, тынкаваліся сцены і столь, іх абрамлялі ляпныя ўпрыгажэнні.

Хуткае развіццё капіталізму ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя ўсё больш накладвала адбітак на сацыяльную, эканамічную і горадабудаўнічую структуру горада. Павялічвалася саслоўе мяшчан — дробных домаўладальнікаў, гандляроў, рамеснікаў. Ішло пераразмеркаванне земляў з гарадской уласнасці ва ўласнасць прыватных асоб. Так, калі ў пачатку 90-ых гадоў прыватнаўласнікам належала ўсяго толькі 11% гарадскіх зямель, то ў 1913 — ужо 66,4%. Развівалася прамысловасць, у 1908 годзе ў Мінску працавала 51 прадпрыемства. Чыгуначны вузел, што сфарміраваўся ў цэнтры горада, замкнуў у кальцо раён, роўны па плошчы Мінску XVIII стагоддзя.

Пачаўся шпаркі рост прыватных раёнаў, рабочых прадмесцяў. Стыхія капіталістычнага развіцця захліснула разумны горадабудаўнічы падыход. Дакладная лінейна-сегментная планіроўка, якая склалася ў выніку рэалізацыі генеральных планаў, прынятых у першай палове стагоддзя, растварылася ў крывых вуліцах і завулках спланаваных землямерамі раёнаў. Някіруемы рост прадмесцяў прывёў да значнага пашырэння плошчы горада, якая з 1861 па 1899 год павялічылася ў 10 разоў. Усё гэта з'явілася вынікам таго, што ў пачатку XX стагоддзя Мінск уяўляў сабой пераважна драўляны горад: з 5355 дамоў 753 былі мураваныя і 572 змешаныя, астатнія — драўляныя.

Працуючых у Мінску выпускнікоў Пецярбургскага будаўнічага вучылішча, з 1882 года — інстытута грамадзянскіх інжынераў, а ў пачатку XX стагоддзя і выпускнікоў Рыжскага політэхнічнага інстытута не хапала для праектавання забудовы прыватных плацаў і кантролю над ёй. У драўляным жыллёвым будаўніцтве шырэй распаўсюджваюцца тыпы даходных дамоў і флігеляў. У пагоні за нажывай домаўладальнікі будуюць падчас на невялікім участку акрамя дамоў два-тры флігелі, што

3. Зак. 1564.

вельмі пераўшчыльняе забудову (шчыльнасць дасягала 80%), робіць яе бязладнай і пажаранебяспечнай. Толькі ў 1896 годзе зарэгістравана 40 пажараў. У барацьбе з гэтым бедствам гарадскія ўлады падчас спрабавалі забараніць будаўніцтва драўляных будынкаў, але большасць мяшчан не мела сродкаў на мураваныя дамы. На долю дрэва ў 1902 годзе даводзілася больш паловы будаўнічых матэрыялаў.

Што ж уяўлялі сабой кварталы драўлянай забудовы ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя?

Газета «Минское слово» ў рубрыцы «Наши окраины» 6 ліпеня 1912 года пісала аб вуліцах Нікалаеўскай, Стара-Віленскай, Георгіеўскай, Старажоўскай, Лагойскім тракце, Шпітальнай: «...Гэтыя вуліцы і завулкі не замошчаны зусім або вельмі кепска замошчаны. У многіх месцах утварыліся ямы, у выніку чаго грузавы і легкавы рух надта ўскладніўся. Асобныя ямы перапоўнены бруднай вадой, якая не высыхае. У ямы скідваецца смецце, выліваюцца памыі...» На ўскраінах часам брукавалі вуліцы, якія служылі пад'ездам з вёсак. Урачэбны інспектар Мінскай губерні С. Урванцоў адзначаў, што «на ўскраінах тратуары ў асобных месцах размешчаны толькі па адным баку, месцамі тратуары настолькі вузкія, што двум пешаходам з цяжкасцю можна размінуцца. Драўляныя тратуары зроблены даволі прымітыўна і ўтрымліваюцца так неахайна, што хадзіць па ім, асабліва ў вячэрні час, трэба з вялікай асцярожнасцю...»

Вялікі працэнт прыватнай забудовы атрымаў ускоснае пацвярджэнне ў колькасці сядзібных садоў. Спасылаючыся на паведамленні землямера Дроса, С. Урванцоў указваў, што плошча садоў у Мінску раўнялася палове ўсёй сялібнай тэрыторыі.

Водаправод абслугоўваў толькі цэнтральныя раёны горада. Асноўным сродкам водазабеспячэння ўскраін былі калодзежы, якіх у пачатку нашага стагоддзя ў Мінску налічвалася 413.

У канцы мінулага стагоддзя двойчы рабіліся спробы цэнтралізавана рэгламентаваць гарадское будаўніцтва. Гэта знайшло адлюстраванне ў Гарадавых палажэннях 1870 і 1892 гадоў. Так, Гарадавым палажэннем 1892 года прадпісваліся мерапрыемствы па асушэнні гразкіх вуліц, забаранялася будаваць у гарадах маставыя з бярвенняў або плах, цясніцца тамбурамі і верандамі да тратуараў. Рэкамендавалася пазбягаць зацесненасці забудовы, аддаляць ад жылой забудовы лазні. Выказваліся супрацьпажарныя патрабаванні да канструкцыі печаў. У прыватнасці, адзначалася, што мураваць печ або пераносіць яе на новае месца можна толькі ў прысутнасці загадчыка гарадской часткі архітэктара. Указвалася на неабходнасць рабіць дахі драўляных дамоў з не-




**Праект жылога дома на рагу вуліц Захар'еўскай і Загараднай. 1857 г.**

згараемых матэрыялаў — бляхі, чарапіцы, а «...салому ўжываць для стрэх ні ў якім разе не дазваляецца».

Пра асобныя меры барацьбы з захламленасцю прыватнай забудовы можна даведацца з артыкулаў «Минского листка». Паведамляючы пра чарговы пажар — яго прычынай стаў хлеўчык, які загарэўся, — газета абуралася: «...Калі ж наш горад ад іх пазбавіцца? А яшчэ наракаць летась пачалі паны домаўладальнікі, калі наша адміністрацыя зносіла гэтыя хляўчыкі дзесяткамі».

Аб планіроўцы і архітэктуры драўляных жылых дамоў у мінулым стагоддзі даюць уяўленне праекты, зацверджаныя Мінскай губернскай будаўнічай і дарожнай камісіяй. Вось, напрыклад, складзены ў снежні 1857 года праект аднапавярховага дома мешчаніна Я. Г. Тапца. Дом меркавалася будаваць на рагу Загараднай і Захар'еўскай вуліц. Прамавугольны план раздзелены на пярэднюю, кухню і агульны пакой. Дзве печы — грубка і варачная — стаяць у цэнтры, сіметрычна перагародцы. Пабудова на мураваным фундаменце, з уцепленай падлогай і столлю. Кроквы ўрублены ў знадворныя вынасы бэлек. Аб афармленні вокнаў заказчык дамаўляўся з рамеснікамі прыватна.

Больш складаныя дамы такога тыпу не вызначаліся асаблівым архітэктурна-канструкцыйным вырашэннем, а мелі толькі больш развітую планіроўку. Напрыклад, у праекце 1861 года дома калежскага асэсара Х. Я. Якубоўскага (будаўніцтва па вуліцы Татарскай) размечаны пярэдняя, два жылыя пакоі ў правай частцы і кухня-сталоўка ў цэнтры. На кухні — варачная печ, жылыя пакоі апальваюцца грубкамі. Некалькі багацейшым, чым у дамах простых мяшчан, было пластычнае вырашэнне фасада: высокі цокаль са светлавымі праёмамі ў склеп, гарызантальная цяга па нізу вокнаў, намечаны ліштвы, паказана шалёўка вуглоў, падшыўка карніза.

Будавалася і шматкватэрнае жыллё. У 1865 годзе зацверджан праект двух драўляных жылых дамоў на пляцы мяшчан Л. М. Галавенчыка і Л. І. Штэйнгаўза на рагу Раманаўскага завулка і Койданаўскай вуліцы. Дом Галавенчыка складаецца з дзвюх жылых частак (кватэр) з самастойнымі ўваходамі. Левая кватэра ўключае пярэднюю, кухню з печчу, чатыры жылыя пакоі, апальваемыя блокам з дзвюх печак-грубак. Правая складаецца з пярэдняй, кухні, трох жылых пакояў, апальваемых блокам з дзвюх грубак. Асаблівасцю архітэктурна-канструктыўнага вырашэння з'яўляецца высокі цокаль над склепам з аконнымі і дзвярнымі праёмамі з боку Раманаўскага завулка. Планіроўка дома Штэйнгаўза вызначаецца большай кампактнасцю: кожная з дзвюх раўназначных частак (кватэр) мае ўваходны вузел (ганак — пярэдняя — кладоўка), вакол якога размяшчаюцца кухня і тры жылыя пакоі.

Быў распаўсюджаны таксама варыянт двухкватэрнага дома з агульным ганкам і спараным блокам тамбурам — пярэдняй-кладоўкай.

Матывы муравана архітэктуры назіраюцца не толькі ў вырашэнні фасадаў, але і ў элементах добраўпарадкавання (вароты, агароджы). Глухія плоскасці штыкетнікаў з гарызантальнымі цягамі раздзелены вертыкальнымі слупамі. Касякі варот і веснічак маюць класіцыстычныя элементы ордэрнай сістэмы, завяр-







**Праект жылога дома па Татарскай вуліцы**




**Праект дома па Маскоўскай вуліцы**





**Праект дома**
**па Мала-Георгіеўскай вуліцы.**
**1913 г.**








**Праект дома па Рэчыцкай вуліцы. Пачатак XX ст.**




**Праект жылых дамоў на каменных падмурках па Раманаўскім завулку і Койданаўскай вуліцы. 1865 г.**

шаюцца масіўнымі прафіляванымі карнізамі або ажурнымі каванымі кратамі. Палотны варот і веснічак філянговыя.

Характэрным для гэтага перыяду быў і будынак, у якім кожная з трох раўназначных частак (кватэр) мела асобны ганак з верандай, пярэднюю з кухняй і трыма жылымі пакоямі вакол яе. Варачная печ шведскага тыпу і грубка, абліцаваныя белай гладкай кафляй (мяркуючы па карнізах і цязе ля падмурка), размяшчаліся на падоўжнай восі будынка, сіметрычна пярэдняй. Пабудова з брусаў, на падмурку, столь і падлога — двайныя, дах кроквенны, з урубкай крокваў у вынасы бэлек, пакрыццё, відаць, — дахавая бляха. Падобны дом спраектаваны для будаўніцтва на пляцы Р. Д. Мураўчык па Мала-Георгіеўскай вуліцы. Выцягнуты план з трохчасткавым дзяленнем. Кожная кватэра мае шырокую веранду з невялікай кладоўкай. Дзве ўзаемна перпендыкулярныя сцяны дзеляць прастору кватэры на ча-



**Праект жылога дома па Мітрапалітскай вуліцы. 1869 г.**




**Праект дома па Міхайлаўскай вуліцы. 1858 г.**




**Праект жылога дома па Мала-Георгіеўскай вуліцы. 1913 г.**

тыры амаль аднолькавыя пакоі (кухню і тры жылыя), у цэнтры — блок печаў (варачная шведскага тыпу і грубка). Планіроўка флігеля вызначаецца меншымі габарытамі (дзве кватэры) і адсутнасцю веранды, але канструктыўнае вырашэнне аналагічнае. Выцягнуты фасад дома з манатонным шэрагам вокнаў упіраецца ў брандмаўэр (процілажарную сцяну), аконны пояс флігеля фланкіруецца па краях дзвярнымі праёмамі. Рашэнні запаўнення аконных і дзвярных праёмаў не прыводзяцца, аўтары спадзяюцца на густ і магчымасці гаспадароў і цесляроў.

Вялікі даходны дом часта з'яўляўся збудаваннем многамэтавага прызначэння. Так, напрыклад, у доме С. Г. Марчызавай па вуліцы Прэабражэнскай здавалася шэсць памяшканняў: мешчаніну С. Глаўсу пад рэстаран, М. Цыпкіну пад майстэрню, мезанін у гэты час пуставаў, пакой наймаў шавец А. Нарушэвіч, тры пакоі займалі домаўладальнікі, бясплатна наймалі кватэру лёкай і пакой дворнік. На архіўным дакуменце алоўкам пазначана характарыстыка адной з кватэр: «2 пакоі лепшыя, 1 цёмны і кухня».

Наогул жа ў гэты час у драўлянай жылой забудове Мінска вылучаліся некалькі тыпаў архітэктурна-планіровачных жылых звенняў кватэр:

жыллё з трох пакояў: пярэдняя, проста па восі ўваходу — кухня, злева або справа — вялікі жылы пакой;

кватэра з развітай планіроўкай: пярэдняя, па восі яе — кухня, злева або справа — чатыры жылыя пакоі, утвораныя ўзаемна перпендыкулярнымі перагародкамі;

у цэнтры планіроўкі — камунікацыйны вузел: пярэдняя, проста — кладоўка; вакол іх чатыры прыблізна роўныя пакоі, у тым ліку кухня;

кватэра з уваходнай групай з веранды, арыентаванай на вуліцу, пярэдняя, вакол якой размешчаны кухня і тры жылыя пакоі;

кватэра, раздзеленая ўзаемна перпендыкулярнымі перагародкамі на чатыры прыблізна роўныя пакоі. Адзін з іх — кухня, да яе прылягае веранда, дзверы якой вядуць у двор. Іншы раз у верандзе адгароджваецца кладоўка;

двухкватэрны дом з блокам пярэдніх-кладовак. Справа і злева да іх прылягаюць кухні, далей вакол ідуць жылыя пакоі;

шматпакаёвы двухкватэрны дом. Агульная пярэдняя, па яе восі — дзве кухні, справа і злева — па чатыры жылыя пакоі;

шматпакаёвы аднакватэрны дом. У цэнтры — блок з чатырох пакояў; пярэдняя з двух пакояў, кухня, сталоўка. Злева і справа — жылыя пакоі.

Аднакватэрныя секцыі служылі планіровачным модулем, з якого маглі фарміравацца шматкватэрныя дамы. Структураўтвараю-




**Праект дома с брандмаўэрам па Мала-Георгіеўскай вуліцы. Канец XIX ст.**




**Праект флігеля па Мала-Георгіеўскай вуліцы. Канец XIX ст.**





Класіфікацыя планіроўкі гарадскога жылля Мінска XIX — пачатку XX ст.:

в — веранда; п — прыхожая: кл — кладоўка; к — кухня; ж — жылы пакой



Схема размяшчэння печаў у жылых дамах Мінска XIX — пачатку XX ст.: в — варачная печ; г — грубка; уг — вуглавая грубка

чымі восямі плана з'яўлялася сістэма капітальных перагародак: працяглай, падоўжанай і некалькіх папярочных. Яны вызначалі колькасць жылых частак (кватэр) у доме, габарыты асноўных пакояў. Як правіла, кватэра ў плане набліжалася да квадрата або блізкага да яго прамавугольніка. Перасячэнне ўнутраных сцен служыла месцам блакіроўкі печаў, якія маглі размяшчацца рознымі спосабамі:

дзве грубкі або грубка і варачная печ шведскага тыпу — сіметрычна адносна перагародкі;

дзве вуглавыя печы — сіметрычна адносна бісектрысы вугла, утворанага перасячэннем перагародак;

шырокая варачная печ — у месцы перасячэння перагародак;

варачная печ і грубка — сіметрычна адносна бісектрысы вугла, утворанага перасячэннем унутраных сцен;

варачная печ і дзве грубкі ўтвараюць блок у месцы перасячэння ўнутраных сцен;

зблакіраваная з грубкай варачная печ на перасячэнні перагародак; у сумежным пакоі на агульнай падоўжанай восі — дзве спараныя грубкі;

дзве зблакіраваныя варачныя печы ў месцы перасячэння ўнутраных сцен, на агульнай падоўжанай восі; у сумежных пакоях — грубкі;

складаная пячная група са спараных у месцы перасячэння ўнутраных перагародак дзвюх варачных печаў; на агульнай падоўжанай восі справа і злева блок з грубак і, магчыма, печаў-ляжакоў.

Для ўнутраных аддзелачных работ у драўляных жылых дамах выкарыстоўваліся тынкоўка, пабелка, шпалеры. Шырокае выкарыстанне апошніх было абумоўлена развіццём шпалернай прамысловасці ў Мінску. Узоры прадукцыі старых часоў, якія захоўваюцца ў калекцыі Мінскай шпалернай фабрыкі, вызначаюцца высокім мастацкім густам, прыгажосцю малюнка. Тут парадныя цёмна-бардовыя адценні і стрыманыя зеленавата-блакітныя, і строгія чорна-залацістыя. Геаметрычныя ўзоры чаргуюцца з фларыстычнымі імправізацыямі (кветкі маку, дзьмухаўцу, лісця папараці і г. д.). Сустракаюцца і матывы рускага палеха (часта выкарыстоўваліся ўзоры маскоўскіх шпалерных фабрык). Стройны рытм малюнка на фоне насычанага цёплага або халоднага колеру ў спалучэнні з беллю высокай столі, цёплым адценнем фарбаванай падлогі, блікамі кафляў, высокімі дзвярыма з бліскучымі латуннымі ручкамі надаваў інтэр'еру ўрачыстасць, пышнасць. Там жа, дзе сцены былі пабелены, іх нейтральнасць стварала ў пакоях атмасферу стрыманасці, сціпласці.

Пра разнастайнасць мэблі, яе колькасць у гарадскіх дамах у пачатку нашага стагоддзя можна меркаваць па дадзеных ацэначных актаў нерухомай маёмасці, што выдаваліся ацэначна-статыстычным аддзелам мінскай гарадской управы жыхарам горада. Розніца ў мэбліроўцы кватэр адлюстроўвала перш за ўсё сацыяльную дыферэнцыяцыю насельніцтва. Так, напрыклад, у ліку нерухомай маёмасці рамесніка Антона Аляхновіча, які жыў па вуліцы Мала-Георгіеўскай, 1 і меў адзін дом, па акце 1915 года адзначаны стол-шафа, пісьмовы стол, гадзіннік насценны, чатыры крэслы, люстра і сталярны варштат. Мэбля, што належала мешчаніну І. Е. Конюху (Грыгор'еўская, 4, два дамы), па акце гэтага ж года ўключала камоду драўляную для бялізны з чатырма шуфлядамі, камоду на тры шуфляды, тры шафы для адзення, умывальнік, шэсць драўляных сталоў, дванаццаць венскіх крэслаў, дзве мяккія канапы, тры ложкі, люстраную шафу, піяніна, два драўляныя сундукі, швейную машыну, насценны гадзіннік, два пісьмовыя сталы, судна-стул, этажэрку, дванаццаць мяккіх крэслаў. Яшчэ больш багатая і разнастайная мэбля ў мяшчанкі Троцкай (Міхайлаўская, 16, двухкватэрны дом і флігель). У доме і флігелі знаходзіліся раяль, буфет, пісьмовы стол, шафа гардэробная (стаяла ў пярэдняй), шафа для адзення, люстра, канапа, два крэслы, шэсць крэслаў мяккіх на спружынах, шэсць венскіх крэслаў, чатыры сталы, дзве кухонныя шафы, адна камода, тры насценныя гадзіннікі, дзве этажэркі, стол для яды.

Такім чынам, кантрасты паміж абсталяваннем дома рамесніка і абсталяваннем жылля заможных мяшчан, у якое ўваходзілі такія каштоўныя прадметы, як піяніна і раяль, відавочны. Па ацэначных актах можна меркаваць і аб ступені распаўсюджанасці асобных прадметаў: венскіх крэслаў, мяккіх канап-крэслаў, гардэробных і адзежных шафаў, насценных гадзіннікаў, люстраў, этажэрак, буфетаў, камодаў.

Нягледзячы на тое што ў XIX стагоддзі драўлянае жыллёвае будаўніцтва развівалася пераважна ў рэчышчы грамадзянскай архітэктуры, у ім знайшлі ўвасабленне планіровачныя і канструкцыйныя прыёмы традыцыйнага жылля. Прапорцыі і суадносіны, спалучэнне памяшканняў, іх габарыты, аб'ёмныя рашэнні, кожны памер, канструкцыя, форма былі правераны часам. Прастата, функцыянальнасць, лагічнасць, рацыянальнасць народнай архітэктуры не маглі застацца незаўважанымі. Схема двухкамернага жылля (хата-сені) прачытваецца ў планіровачных рашэннях дамоў XIX стагоддзя. Традыцыйныя сені дзеляцца на пярэднюю і кухню, што абумоўлена новымі жыллёвымі функцыямі. Трохкамерная схема плана, дзе сені злучалі два жылыя памяшканні або жылое памяшканне і кладоўку (клець), таксама знайшла шырокае ўвасабленне ў праектах гарадскога жылля. Тут яскрава бачна вялікае звязваючае звяно (пярэдняя — кладоўка — кухня) у цэнтры планіроўкі паміж размешчанымі на флангах жылымі пакоямі.

Атрымалі далейшае развіццё і вядомыя канструктыўныя прыёмы: зрубная тэхніка, канструкцыі падлогі, столі, дахаў. Традыцыйныя формы праявіліся па-новаму: памеры пабудоў павялічыліся, але захаваліся прапорцыі, характар размяшчэння праёмаў, формы дахаў і г. д. Некаторыя рысы вышыннага развіцця — жыллё на поклеці — выявіліся ў дамах на высокіх надсклепных цокалях, у зрубна-мураваных будынках з ніжнім мураваным паверхам. Складаныя аб'ёмна-прасторавыя формы, уласцівыя архітэктуры жылля заможных гараджан XVII стагоддзя, развіваліся асобна і выявіліся ў ампіры, мадэрне.

То што ж та́кое Мінск канца XIX — пачатку XX стагоддзя? Купаламі культавых пабудоў, ратушай, вялікімі мураванымі будынкамі Верхняга горада вызначаўся цэнтр. Побач — масіў сквера, праз які праглядвалі купалочкі архірэйскага падвор'я. Ніжэй да Свіслачы — зяляніна гарадскога саду, а за ім — велатрэк, іпадром. А далей драўляныя дамы абступалі шматлікія вулачкі, з імёнамі і безыменныя, малыя і вялікія. Серабрыўшыяся пад сонцам дахі пазначалі пабудовы. Усё астатняе, тое, што было далей ад вуліц, у глыбіні двароў, патанала ў зяляніне прысядзібных садоў. Па бруку грукаталі колы брычак і ламавых драбін, рыпелі пад нагамі дошкі тратуараў, з якіх трэба было саступіць,

4. Зак. 1564.

каб прапусціць жанчыну з каромыслам або падлетка з вязанкай дроў. Паркан часта перарываўся слупамі ганкаў — майстэрні і крамы выходзілі прыступкамі проста на тратуар. Зайсці ў двор можна было праз масіўныя дашчаныя вароты або невялічкую веснічку побач. Дамы стаялі за плотам, а то і без яго — фасадам адразу на чырвонай лініі. Пацямнелае дрэва сцен ажыўлялася ліштвамі і аканіцамі, карнізнымі паяскамі, часта акаймаванымі разьбой. Многія дамы шалявалі, а затым фарбавалі. Ад дажджу і сонца фарба выцвітала, згладжваліся кантрасты, знікала стракатасць, зноў утвараўся звыклы колерны каларыт, які дапаўняўся зелянінай агародчыкаў і садоў, мазаікай бруку.

## ПА ВУЛІЦАХ СТАРЫХ ПРАДМЕСЦЯЎ

Састаўнымі звеннямі гісторыка-горадабудаўнічай сістэмы ў XIX — на пачатку XX стагоддзя з'яўляліся прадмесці. У агульнай сетцы кварталаў яны вылучаліся здробленай і ўшчыльненай структурай надзелаў. Архітэктурна-планіровачныя прынцыпы фарміравання забудовы вызначаліся тут памерамі і канфігурацыяй пляцаў, што залежала ад магчымасцей уладальнікаў, а таксама санітарнымі, пажарнымі і будаўнічымі нормамі. Жылыя дамы ставіліся ўздоўж чырвонай лініі, у глыбіні знаходзіўся флігель, далей — хлявы, а за імі — агарод, сад. Па фронту вуліцы дамы злучаліся агароджай з варотамі і веснічкамі, дашчаным тратуарам.

**Ракаўскае прадмесце і Татарская Слабада.** У XVIII—XIX стагоддзях забудова тут вялася на планіровачнай структуры больш ранняга перыяду — XVI—XVII стагоддзяў. У гэтым сэнсе дадзены раён з'яўляецца для нас каштоўным помнікам горадабудаўніцтва. У XIX—пачатку XX стагоддзя Няміга-Ракаўскую, Уваскрасенскую, Замкавую, Вялікую Татарскую, Саматужную вуліцы (не ўсе яны захаваліся) засялялі рамеснікі-гандляры: шаўцы і краўцы, цырульнікі і аптэкары, кандытары і булачнікі, ювеліры і кушняры. Буйным уласнікам зямлі была Кацярынінская царква. Яна здавала надзелы арандатарам, якія будавалі на іх дамы і флігелі для кватэранаймальнікаў. З сучаснай вуліцы Вызвалення, 4 (былой Уваскрасенскай) у музей народнай архітэктуры і побыту перавезены адзін з такіх дамоў. Пабудаваны ён у 1906 годзе, хоць праект распрацаваны значна раней — у 1890-ым. Домаўладальнік Купер планаваў паставіць каля дома вялікі флігель, разліч-




**Планіроўка кварталаў Ракаўскага прадмесця і Татарскай слабады. Канец XIX ст.**

ваючы на маленькім кавалку зямлі пасяліць як мага больш кватэранаймальнікаў. Але флігель пабудаваны не быў, а дом атрымаўся з асобнымі адхіленнямі ад праекта, выклiканымі часткова характарам забудовы надзелаў суседзяў. Дом на цягляным цокалі, з брусаў. Складаецца з дзвюх жылых палоў, падзеленых лёгкімі перагародкамі на чатыры пакоі (кухня і тры жылыя). Уваход праз зблакіраваны тамбур. Кожная палова мела варачную печ з грубкай. Двухсхільны дах — з гонтавым пакрыццём. На вокнах — ліштвы і аканіцы. У інтэр'еры — атынкаваныя і пабеленыя сцены. На ўчастку размяшчаліся сад і агарод, склеп, невялікая паветка. Падобны да гэтага помніка дом пачатку XX стагоддзя па вуліцы Дзімітрава, 11 (былая Татарская): з брусаў, на цагляным цокалі, дах двухсхільны, вокны з характэрнымі ліштвамі і аканіцамі.

Дамы-крамы, а таксама дамы з майстэрнямі, кандытарскімі,



1.



2.

3.



**Дом па вуліцы Вызвалення, 4 (былая Уваскрасенская): 1, 2 — схема плаца і план 1890 г., 3 — план 1947 г.**



**Домік канца XIX ст. па вуліцы Дзімітрава, 11. Ракаўскае прадмесце**




**Дом па Уваскрасенскай вуліцы. 1899 г.**



**Дзверы жылога дома пачатку XX ст. па вуліцы Астроўскага. Ракаўскае прадмесце**



**Забудова канца XIX — пачатку XX ст. па вуліцы Калектарнай**

пякарнямі будаваліся ў два ўзроўні: унізе, у мураванай падклеці, размяшчаліся гандлёвыя або вытворчыя памяшканні, у верхнім драўляным паверсе — жылыя пакоі. У раёне скрыжавання вуліцы Дзімітрава з завулкам Дзімітрава і вуліцай Зялёнай да нядаўняга часу існаваў фрагмент старога квартала, які даваў уяўленне менавіта пра такі тып забудовы Ракаўскага прадмесця. Дом па вуліцы Дзімітрава, 23 пабудаваны ў канцы XIX стагоддзя. У вялікай мураванай падклеці калісьці знаходзілася кухня.

Вылучалася забудова заходняй часткі Ракаўскага прадмесця ў раёне Яўрэйскага завулка (цяпер Калектарная вуліца). Тут быў брук, тратуары з дошак са сцёкавымі жолабамі. У пачатку XX стагоддзя з'явіліся газавыя ліхтары. Насялялі раён шаўцы, краўцы, цырульнікі, мяснікі, булачнікі, бляхары, шкляры, рымары. На рагу з вуліцай Нова-Маскоўскай (цяпер Мяснікова) у той час стаяла «Зала-Парыж».

Дамы пад нумарамі 3, 7, 8, 36, 38, якія захаваліся па вуліцы Калектарнай, тыповыя для забудовы XIX — пачатку XX стагоддзя. Дом пад нумарам 8 — на высокім цокалі, вокнамі выходзіць на тратуар. Верхні драўляны паверх ашаляваны. Вокны



**Драўляны порцік у доме па вуліцы Шпалернай. Ракаўскае прадмесце**

акаймаваны ліштвамі, карнізы — разьбой. Над уваходам — стрэшка на падкосах.

Каштоўнымі ўзорамі драўлянага шматкватэрнага жылля пачатку XX стагоддзя з'яўляюцца дамы па вуліцы Шорнай.

Уцалелі і асобныя жылыя будынкі першых паслярэвалюцыйных дзесяцігоддзяў. Так, драўляныя дамы 20-ых гадоў па вуліцы Калектарнай, 36, 38 належалі сем'ям рамізнікаў. Дом № 29 па вуліцы Шорнай пабудаваны ў 1933 годзе для рабочых лясной прамысловасці (двухпавярховы, з калідорнай планіроўкай).

На вуліцы Нямігскай (цяпер Няміга) сяліліся рамеснікі і крамнікі. Іх дамы стваралі стракаты малюнак на фоне прысядзібных садоў і агародаў. Раёны Ракаўскага прадмесця і Нямігі аб'ядноўваў Нямігскі рынак, або Ніжні базар, абсталяваны драўлянымі прылаўкамі, павецямі, падчас складанай канструкцыі і формы. Тут знаходзіліся галоўны звоз конак, мясныя рады, рыбны рынак. Як пісаў П. Шпілеўскі, адсюль нікога не выпускалі, не надзяліўшы якой-небудзь пакупкай. Мясцовыя рамеснікі вялі бойкі гандаль, збіраліся яны сюды і для найму на працу (прывезці і папілаваць дровы, змураваць печ, зашкліць вокны і г. д.), таму месца гэта было вядома і як «біржа працы».

**Старажоўка і Пярэспы.** Прадмесце Старажоўка атрымала сваё



Жылы дом канца XIX ст. па вуліцы Калектарнай, 8



Жылы дом пачатку XX ст. па вуліцы Шорнай




Фрагмент забудовы
Троіцкага прадмесця. Пачатак XX ст.

імя ад тагачаснай заставы, што знаходзілася на выездзе з горада ўбок Барысава. Пазней гэту ж назву набылі і размешчаныя там могілкі. Пярэспы (калісьці тут працякала аднайменная рэчка) так і заставаліся гарадской ускраінай. Драўляная забудова ішла ўздоўж Стара-Віленскай вуліцы, Стара-Віленскага і Смаргонскага трактаў. На рагу Даўгінаўскага і Смаргонскага трактаў (цяпер вуліца Чарвякова і Смаргонскі тракт) стаяла карчма. Прадмесце таксама насяляў гандлёва-рамесніцкі люд. Гандлёва-рамесніцкая дзейнасць актывізавалася ў пачатку XX стагоддзя ў сувязі са з'яўленнем Старажоўскага рынка.




**Троіцкае і Старажоўскае прадмесці. Канец XIX ст.**



Від на Верхні горад. Канец XIX ст.



Мінск у раёне Троіцкага прадмесця і Нямігскага рынка. XIX ст.

На скрыжаванні цяперашніх вуліц Чарвякова і Стара-Віленскага тракта ў 30-ыя годы было разваротнае трамвайнае кола. Драўляная забудова, што існуе ў нашы дні на поўнач ад указанай мяжы, з'явілася ў 20-ыя гады ў выніку звозу сядзібаў з хутароў пры правядзенні калектывізацыі на прыгарадных тэрыторыях.

У ліку захаваных помнікаў драўлянага дойлідства — дом № 5 па вуліцы Чарвякова, па планіроўцы і архітэктурным рашэнні ідэнтычны дамам з Ракаўскага прадмесця, г. зн. з'яўляецца тыповым для свайго часу; дом № 1 па Стара-Віленскай вуліцы (1915—1916), дом № 23 па Смаргонскім тракце (1915). У двух апошніх у большай ступені выявіліся рысы сельскага жылля (выкарыстанне замест брусаў бярвенняў, абчэсаных на два канты, адсутнасць паясных цяг, карнізаў, больш свабоднае размяшчэнне аконных праёмаў, просты падмурак замест характэрнага цокаля). Шэраг дамоў па Стара-Віленскім, Даўгінаўскім і Смаргонскім трактах пабудаваны ў 1925—1929 гадах. Напрыклад, дом № 25 па Стара-Віленскім тракце перавезены з вёскі Маркаўшчына Лагойскага раёна ў 1929 годзе.

**Прадмесце Камароўка.** Сваю назву яно атрымала ад аднайменнай вёскі, што належала да 1812 года Радзівілам і размяшчалася на ўскрайку вялікага балота. У 1911 годзе для вывучэння праблем асушэння забалочаных тэрыторый у Камароўцы адкрылася балотная станцыя.

Драўляная забудова Камароўскага прадмесця распасціралася да цяперашняй плошчы Якуба Коласа і філармоніі. Сёння нешматлікімі сведкамі мінулага з'яўляюцца старыя яблыні і вішні на плошчы перад Камароўскім рынкам і за філармоніяй. Ад Камароўкі драўляная забудова цягнулася ў паўднёва-заходнім напрамку да вуліцы Даўгабродскай (атрымала такую назву ад урочышча Доўгі Брод) — тут пачыналася вуліца Галантарэйная (цяпер вуліца З. Бядулі) — і выходзіла да вялікага раёна **Кашары**, дзе знаходзіліся грамадзянскія і ваенныя правіянцкія склады, стаялі шматлікія мясныя і прадуктовыя крамы. З цэнтральнай Захар'еўскай вуліцай (цяпер Ленінскі праспект) Кашары звязвалі вуліцы Шпітальная (цяпер Фрунзе) і Скобелеўская (цяпер Чырвонаармейская). На захадзе раён межаваў з гарадскім садам (цяпер парк імя М. Горкага), што меў розныя збудаванні для адпачынку і забаў. Цэнтральнае месца займаў велатрэк. На супрацьлеглым баку Свіслачы знаходзіўся гарадскі іпадром.

З традыцыйнай драўлянай забудовы ў гэтым раёне захаваліся асобныя дамы па Чырвонаармейскай — № 45, 72, 74, часткова забудова Смаленскай вуліцы. Скобелеўская і Смаленская вуліцы мелі ў пачатку XX стагоддзя брук і дряўляныя тратуары. За адсутнасцю водаправода ваду бралі са Свіслачы або з калонкі на суседняй Андрэеўскай вуліцы. Да ліку пасяленцаў Кашар



Драўляная забудова Мінска. Пачатак 50-ых гадоў XX ст.




Схема пляцаў па Лагойскім тракце. Канец XIX ст.




**Планіроўка пляцаў у раёне Захар'еўскай і Каломенскай вуліц. Канец XIX ст.**



**Павільён у гарадскім садзе. Пачатак XX ст.**

5. Зак. 1564.



**Мінская конка**



**Вуліца К. Маркса (былая Падгорная). Пачатак 50-ых гадоў XX ст.**



**Забудова пачатку XX ст. па вуліцы Беларускай. Прадмесце Ляхаўка**

належалі і рамізнікі. Яшчэ некалькі гадоў назад ля дома № 45 па Чырвонаармейскай стаялі старыя павозкі.

За іпадромам Кашары межавалі з прадмесцем Верхняя Ляхаўка. Тут па вуліцы Верхняя Ляхаўка (цяпер Беларуская) захаваўся шэраг тыповых жылых драўляных дамоў і асобныя ўзоры двухпавярховых пабудоў. Уздоўж вуліцы і ля берага ракі шумяць лістотай у цёплую пару года ацалелыя з тых часоў дубы, таполі, дрэвы арэха мядзведжага і інш.

**Ляхаўка.** У сярэдзіне мінулага стагоддзя гэта быў прыгарад. П. Шпілеўскі пісаў: «Вось праехаў я рамантычны ляхаўскі гай, дзе так любяць гуляць мінскія франты». Бурнае будаўніцтва тут пачалося ў другой палове XIX стагоддзя ў сувязі з развіццём зоны вакол чыгуначнага вузла і прамысловых прадпрыемстваў, якія да яго прылягалі.

Структуру прадмесця ўтваралі дзве Ніжне-Ляхаўскія (цяпер Кастрычніцкая і Ульянаўская), дзве Верхне-Ляхаўскія (не існуюць) вуліцы, Ляхаўская слабада і частка Круглага завулка (не існуе). Да канца XIX стагоддзя ў тым раёне прадмесця, што выходзіў да ракі, склаўся цэлы комплекс прамысловых прадпрыемстваў.

Адна з галоўных у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя вуліц Ляхаўкі — брукаваная, з тратуарамі з дошак Кірылаўская (цяпер Магілёўская). Разам з вуліцамі Студэнцкай, Вішнёвай, По-




Схема пляцаў прадмесця Ляхаўка. Пачатак XX ст.



**Дом пачатку XX ст. на Полацкім завулку, 7. Прадмесце Ляхаўка**



**Мемарыяльная дошка на былой канспіратыўнай кватэры падпольнай камсамольскай групы «Андруша» па вуліцы Магілёўскай, 68**




**Фрагмент планіроўкі ўрочышча Уборкі. Пачатак XX ст.**

лацкім завулкам (цяпер назвы тыя ж) яна ўтварала квартальную сістэму з дамамі, што стаялі ўздоўж вуліц, з размешчанымі ў глыбіні флігелямі, гаспадарчымі пабудовамі. Прадмесце патанала ў зеляніне шматлікіх садоў, разгалістыя ліпы і высокія таполі стаялі ля веснічак і агародчыкаў.

Да нашых дзён захавалася адна з водаразборных калонак, якія ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя стаялі ўздоўж вуліцы Кірылаўскай.

Тыповым узорам жылога будынка з'яўляецца аднакватэрны дом па цяперашняй Магілёўскай вуліцы, 66, пастаўлены ў 1898 го-




**План сядзібнага пляца па Мала-Георгіеўскай вуліцы. Урочышча Уборкі. Пачатак XX ст.**

дзе. Дамы, падобныя на гэты, служылі своеасаблівым модулем, ячэйкай, з якой фарміравалася жыллё для некалькіх кватэранаймальнікаў. Яшчэ адзін такі дом стаіць пад нумарам 76; ён пабудаваны ў 1906 годзе. Звернем увагу на дваровую веранду. Гэта — характэрны элемент для гарадскога жылля. Звычайна яна ўтварае ў плане аднакватэрнага дома літару Т, шматкватэрнага — літару Ш.

Шэраг жылых дамоў пачатку XX стагоддзя захаваўся па вуліцы Студэнцкай (№ 10, 12), завулках Вішнёвым (№ 2), Полацкім (№ 7). Яны на цагляных цокалях, з брусаў. Вокны, карнізы і франтоны акаймаваныя дэкорам з узорамі і матывамі, характэрнымі для драўляных будынкаў Мінска таго часу. У інтэр'еры — пабелка, шпалеры, печы з белай кафляй.

Насялялі прадмесце на мяжы стагоддзяў рабочыя і служачыя, у большасці сваёй актыўныя ўдзельнікі рабочага і рэвалюцыйнага руху. Рабочы раён Ляхаўка шырока фігураваў у паведамленнях пра выступленні пралетарыяту горада. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў доме № 68 па вуліцы Магілёўскай знаходзілася штаб-кватэра групы мінскіх падпольшчыкаў, якую ўзначальваў М. Кедышка. Цяпер тут плануецца стварыць мемарыяльны музей.

**Уборкі.** Вялікі рабочы раён, займаў тэрыторыю на поўдзень і паўднёвы ўсход ад Віленскага вакзала (цяперашні арыенцір — сучасная забудова ў раёне ўніверсама «Кастрычніцкі»). Забудова вялася вакол развязачнага вузла Маскоўска-Брэсцкай і Лібава-Роменскай чыгунак, даходзячы да Маскоўскай вуліцы і Койданаўскага тракта (цяпер вуліца Чкалава). Прадмесце перасякалі вуліцы Брэсцкая, Грыгор'еўская (цяпер Фабрыцыўса), Слонімская, Мала-Георгіеўская (цяпер Талстога). Апошняя рассякалася чыгункай напалам, прычым паўночная яе частка знаходзілася ў кальцы чыгуначнай развязкі. Паралельна Брэсцкай ішла Георгіеўская, правей, амаль пад прамым вуглом, прымыкалі Каменная (цяпер Варанянскага), Нова-Мяшчанская і Слонімская (назва апошняй засталася) вуліцы. Мала-Георгіеўская аддзяляецца ад іх участкам балота. Сетка дробных вуліц і завулкаў дзяліла забудову на квартальчыкі і ўчасткі.

Прадмесце насялялі ў асноўным рабочыя, але жылі тут і служачыя, гандляры, рамеснікі. Яшчэ да 1985 года па вуліцы Талстога, 14а стаяў драўляны дом на дзве жылыя паловы, пабудаваны, мяркуючы па датах на каваных рашотках над ганкамі, у 1904 годзе. Архіўныя дакументы сведчаць, што на гэтым жа месцы стаяў пабудаваны ў 1890 годзе жылы дом, які належаў настаўніку гімназіі С. І. Радзько. А пазней ужо, у 1904 годзе, з'явіўся флігель. Сядзіба апроч гэтых будынкаў уключала агарод, сад, хлеў, абнесены штыкетнікам. У гады першай сусвет-



Дом 1904 года па вуліцы Талстога, 14а. Прадмесце Уборкі



Від са двара дома 1904 г. па вуліцы Талстога, 14а

най вайны флігель выкарыстоўваўся як сталоўка для бежанцаў. Дом 1890 года не захаваўся. Напэўна, ён згарэў у час вайны з белапалякамі, калі ад пажару больш за ўсё пацярпелі прывакзальныя прадмесці. У 1916 годзе ў правай палове флігеля наймаў кватэру З. Бядуля з дзвюма сёстрамі. Сюды наведваліся вядомыя прадстаўнікі беларускай культуры У. Фальскі, У. Галубок. Нейкі час жыла тут і пісьменніца Зоська Верас, заходзіў А. Чарвякоў. У верасні 1916 года ў Мінск з Яраслаўя прыехаў М. Багдановіч. З. Бядуля прапанаваў паэту пасяліцца ў адным з пакояў сваёй кватэры. М. Багдановіч жыў у флігелі на Мала-Георгіеўскай да самага дня свайго ад'езду ў Ялту ў лютым 1917 года.

У 1986 годзе ў сувязі з будаўніцтвам шматкватэрнага дома Мінскага вагонарамонтнага завода флігель, вядомы ў горадзе як дом З. Бядулі, перавезены на завулак Рабкораўскі, і пасля рэстаўрацыі ў 1987 годзе ў ім адкрыты філіял музея М. Багдановіча.

У 1919 годзе Мінскі гарадскі Савет рабочых і сялянскіх дэпутатаў прыняў рашэнне аб высяленні буржуяў, гандляроў і крамнікаў з прывакзальных раёнаў на ўскраіну горада. У ачышчаных дамах меркавалася даць жыллё сем'ям рабочых чыгункі.

**Серабранка.** Ад выходзячай да вакзала Камерцыйнай вуліцы (цяпер Кірава) у паўднёвым напрамку ішла вуліца Каломенская (цяпер Свярдлова) і паблізу ад Ніжняй Ляхаўкі злівалася з Игуменскім трактам (цяпер Маякоўскага). На гэтым месцы знаходзіўся Ігуменскі рынак. Горад заканчваўся недалёка ад вёскі Лошыца прыдарожнай карчмой. На тэрыторыі паміж трактам і Свіслаччу ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя пачалі сяліцца рабочыя з прадпрыемстваў суседняй Ляхаўкі і чыгуначнікі. Узніклі вуліцы Аранская (назва засталася), Безыменная (цяпер Палеская), Лугавая, Гужавая, Аранжарэйная, пазней Дзянісаўская і інш. Жылі тут і булачнікі, краўцы, кушняры, кавалі, сталяры, чырванадрэўшчыкі, рамізнікі. На Безыменнай вуліцы знаходзілася карчма. Непадалёку ад прадмесця ляжала вёска Серабранка, якая атрымала сваю назву ад ручая Сярэбранага. Па іншай версіі, ля Ігуменскага рынку ў вялікім мураваным заезным доме на Ігуменскім тракце насупраць карчмы спыняліся «сярэбраныя купцы», а тыя, хто багацейшы, «залатыя», ехалі далей на Залатую Горку.

Прадмесце межавала з ракою і лугам. Ля берага Свіслачы стаялі чаўны рыбакоў, Безыменная вуліца выходзіла на ўзлесак. І цяпер яна захапляе цяністымі кронамі абступаючых яе старых ліп, клёнаў і таполяў. Сто гадоў назад тут не было ніякага брукавання. Па зялёным травяністым покрыве ішла вузкая калёсная каляіна. Дамы № 6, 8, 10, 20, 22, 24 былі пабудаваны ў пачатку гэтага стагоддзя. Забудова суседняй Лугавой вуліцы пачала фарміравацца ў 1902 годзе. Дом пад нумарам 34 пабу-



**Рашотка над ганкам дома 1904 г. па вуліцы Талстога, 14а**

даваны ў канцы 80-ых гадоў мінулага стагоддзя рабочым-чыгуначнікам. Праз паўстагоддзя ў гады Вялікай Айчыннай вайны яго ўнук, Мікалай Сямёнаў, арганізаваў у доме канспіратыўную кватэру мінскага партыйнага падполля. Выдадзены здраднікам, ён трапіў у рукі фашыстаў і быў пакараны смерцю ў 1942 годзе. Цяпер на доме мемарыяльная дошка, а неўзабаве адкрыецца музей падпольшчыкаў. Дом № 59 па вуліцы Лугавой пабудаваны ў 1905 годзе.

Незвычайны выгляд мае дом № 8 па Лугавым завулку. Частка яго збудавана ў 1926 годзе. Уладальнік, інжынер-будаўнік М. У. Сілістроўскі ў 1952 годзе дабудаваў мансардную частку, зрабіў веснічкі, металічную агароджу ў стылі мадэрна. Тут бачна не толькі даніна традыцыям, але і іх эстэтычнае пераасэнсаванне, уяўленне канкрэтнага чалавека аб удасканаленні старога гарадскога жылога асяроддзя.

Дом № 36 па Палескай вуліцы вызначаецца між іншых ажурным каваным дымнікам на даху. На ліштвах дома № 32 стаіць дата — 1929 г. Праўда, як удакладніў гаспадар, цяперашнія ліштвы зроблены пазней. Старыя арыгіналы зняты і захоўваюцца як узор.

На вуліцы Маякоўскага, 77 насупраць доўгага тысячакватэрнага дома адзінока стаіць драўляны жылы будынак 1912 года.




**Мемарыяльная дошка на доме канца XIX ст. па вуліцы Лугавой, 34**

У двары калодзеж з шатровай стрэшкай, з боку вуліцы — моцныя акаваныя вароты, выкананыя пасля вайны па ўзору тых, што некалі з'явіліся разам з домам.

**Добрая Мысль.** Калісьці так звалася вёска, што знаходзілася на паўднёва-заходняй ускраіне горада. У другой палове XIX стагоддзя яна ператварылася ў прычыгуначнае прадмесце. Яго тэрыторыя ішла ад заходняга чыгуначнага моста ўправа адносна Маскоўскай вуліцы. Вартым увагі ў прадмесці быў драўляны Брэсцкі вакзал, пабудаваны ў стылі мадэрна, багата ўпрыгожаны прапільнымі карнізамі, разным дэкорам. Размяшчаўся ён у раёне цяперашняга прыпыначнага пункта электрацягнікоў «Інстытут культуры». Ад забудовы Добрай Мыслі не захавалася нічога. Памяць пра былое рабочае прадмесце мэтазгоднааднавіць у назвах адной з яго вуліц, гандлёвага цэнтра або прыпыначнага пункта прыгарадных цягнікоў.

**Грушаўка.** Бадай няма ў нашым горадзе іншага такога старога прадмесця, дзе б захаваліся не толькі асобныя драўляныя дамы, але і цэлыя фрагменты старой забудовы кварталаў: вуліцы і завулкі з дамамі ўздоўж іх, флігелі і павеці ў дварах, шматлікія сады і агароды. Амаль усё гэта з'явілася ў пачатку стагоддзя. Тады ў сувязі з будаўніцтвам вагонарамонтнага завода прадмесце імкліва разраслося. Але ёсць і больш ранція



**Ліштва ў доме па вуліцы Палескай. Прадмесце Серабранка**



**Дом 1912 года па вуліцы Маякоўскага, 77**



Брама ў двары жылога дома 1912 года па вуліцы Маякоўскага, 77




**Планіроўка пляцаў ва ўрочышчы Добрая Мысль. Канец XX ст.**




**Квартал № 370 урочышча Добрая Мысль. Канец XIX ст.**

пабудовы. Напрыклад, па Разінскім завулку, 4 захаваўся драўляны дом сярэдзіны мінулага стагоддзя. Магістральную сетку прадмесця стварылі Асіпоўская (цяпер Разінская), Грушаўская (у той час галоўная), Чыгуначная вуліцы разам з аднайменнымі завулкамі.

У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя вуліцы прадмесця былі небрукаваныя, уздоўж платоў ішлі тратуары з дошак. У завулак з цяжкасцю маглі заехаць калёсы. На Грушаўскай вуліцы знаходзіліся тры водаразборныя калонкі. На скрыжаванні яе з Чыгуначным завулкам стаяў шынок. Яшчэ на Грушаўскай размяшчаўся арыштанцкі дом з мужчынскім і жаночым аддзяленнямі.

Забудову прадмесця складалі ў асноўным дамы з флігелямі на некалькі сем'яў: на цагляных фундаментах, з брусаў, з двухсхільнымі гонтавымі дахамі, разным дэкорам на вокнах, карнізах і франтонах (дамы № 1, 2, 6, 14, 19, 20, 31, 41, 43, 56, 90, 92, 118 па вуліцы Разінскай, № 3, 4, 7 па Грушаўскім завулку, № 4, 17, 18 па 3-ім Чыгуначным завулку, многія драўляныя дамы па Грушаўскай).

Своеасаблівым каларытам, маштабнасцю, добрай захаванасцю драўлянай забудовы вылучаецца **вуліца Хмялеўскага,** у мінулым ускраіна, якая межавала з землямі вёскі Пятроўшчына, што размяшчалася непадалёку, і асобных фальваркаў. У канцы XIX ста-



Вакзал Маскоўска-Брэсцкай чыгункі



Дом пачатку XX ст. па вуліцы Грушаўскай



Дом пачатку XX ст. па вуліцы Грушаўскай, 5



**Куток Грушаўскага прадмесця**



**Ліштва. Вуліца Грушаўская, 96**

6. Зак. 1564.



**Дом пачатку XX ст. па вуліцы Разінскай, 19**



**Дом пачатку XX ст. па вуліцы Разінскай, 20**



Забудова пачатку XX ст. па вуліцы Хмялеўскага



Фрагмент разнога ўбранства ў доме пачатку XX ст. па вуліцы Разінскай




Схема забудовы вуліцы Хмялеўскага. Сучасны стан



**Дом пачатку XX ст. па вуліцы Хмялеўскага**

годдзя вуліца называлася Грушаўскім завулкам, а затым вуліцай Пакгаўзнай. Паўночны яе канец выходзіў на выган, дзе, як паказвае схема пачатку XX стагоддзя, узвышаліся групы старажытных курганавых могільнікаў і ляжала невялікае возера. Першыя дамы тут з'явіліся ў 80-ых гадах мінулага стагоддзя і належалі асобным домаўладальнікам. Жылі ў іх у асноўным рабочыя і служачыя Лібава-Роменскай чыгункі: кандуктары і стрэлачнікі, паштовыя агенты, памочнікі машыністаў. У крамах прадаваліся царкоўныя прыналежнасці і хлебабулачныя вырабы, працавала кузня. У асобных дварах меліся збожжавыя клеці, стайні, вазоўні. На ўсход ад Пакгаўзнай, паралельна ёй, ішла вуліца Ізвозная — там жылі рамізнікі.

Шарэнгі драўляных дамоў па Хмялеўскай, перарываемыя старымі дрэвамі, даносяць да нас атмасферу гарадскога асяроддзя, якое было тут сто гадоў назад. Сляды фарбы на аканіцах, шаляваных сценах, ліштвах дазваляюць лёгка ўявіць, як маляўніча тут усё выглядала ў мінулым: прыгожыя драўляныя домікі пад кронамі ліп і таполяў, у акружэнні квітнеючых вясновых садоў.

Утульна на скрыжаванні вуліц Хмялеўскага і Дзекабрыстаў, дзе невялікія будынкі на адну кватэру павернуты да прахожых шыкоўнымі вокнамі.





Дамы пачатку XX ст. па вуліцы Хмялеўскага



Дом пачатку XX ст. на рагу вуліц Хмялеўскага і Дзекабрыстаў



Аканіцы. Дом па 1-ым Чыгуначным завулку, 12




**Схема пляцаў Паўночнага завулка. Пачатак XX ст.**

А калі зазірнуць у асобныя дамы — напрыклад, у дом № 90 па вуліцы Разінскай, пабудаваны ў 1894 годзе, — то адразу ж трапіш у акружэнне старога побыту. Тут традыцыйныя печы на падрубе, драўляныя лавы і ложкі, стол, куфар на казлах — усё гэта пасярод пацямнелых драўляных сцен і столі...

**Паўночны завулак.** На паўночны ўсход ад Пакгаўзнай і Ізвознай ішлі Лютэранская, Мала-Лютэранская і Людаманская вуліцы. Гэта было своеасаблівае лютэранскае прадмесце з лютэранскімі могілкамі і кірхай.

Першыя дамы ў завулку з'явіліся ў канцы XIX стагоддзя, а забудова яго склалася прыкладна да 1910 года. Паўночны завулак, які размяшчаўся ў самым пачатку ўсходняй часткі лютэранскага квартала, з поўначы абмяжоўваўся вуліцай Нямецкай (зараз Карла Лібкнехта), з поўдня — Мацвееўскай (цяпер Розы Люксембург), з усходу — Маляўскім завулкам (цяпер Клары




Забудова Паўночнага завулка ў пачатку XX ст.



**Дамы пачатку XX ст. па Паўночным завулку**

Цэткін), з захаду — вуліцай Бабруйскай. Правы бок завулка быў падзелены на акуратныя прамавугольнікі плацаў, што ішлі двума паралельнымі радамі. Левы меў упарадкаваную забудову толькі ўздоўж самога завулка і вуліцы Мацвееўскай. У бок Бабруйскай вуліцы ішлі плацы з вялікімі зямельнымі ўчасткамі і сенажаццю.

Валодалі плацамі і адпаведна дамамі прадстаўнікі розных саслоўяў. З дваццаці сямі плацаў Паўночнага завулка 8 належалі дваранам, 9 — сялянам, 10 — мяшчанам, прычым самі домаўладальнікі жылі не абавязкова ў доме на плацу, які ім належаў. Напрыклад, адзін з іх, дваранін, жыў у мястэчку Раманава Магілёўскай губерні, двое мяшчан — у Асіповічах. Наймалі жыллё ў асноўным служачыя, рабочыя і чыноўнікі Лібава-Роменскай чыгункі. На адным плацу магло пражываць да шасці сем'яў.

Уздоўж тратуараў завулка ішлі агароджы. Захаваўся праект драўляных варот з веснічкамі па Паўночным завулку на плацу Барысевічаў. Паказаны плот са штыкецін, дугападобнай формы. Моцныя дашчатыя вароты з раскосамі фланкіраваныя злева і справа веснічкамі, асобна на кожную палову плаца.

Сёння да Паўночнага завулка можна прайсці па праспекце Дзяржынскага. З-за высокага адхону і зеляніны садоў знайсці завулак летам нялёгка. Па вузкай лесвіцы ўзнімемся наверх, пройдзем уздоўж агароджы са штыкетніку, і справа перад намі



Дом пачатку XX ст. па Паўночным завулку, 22




Дом 1910 года па Паўночным завулку, 18



**Ганак жылога дома пачатку XX ст. па Паўночным завулку, 19**

План дома № 18 па Паўночным завулку



адкрыецца завулак. Драўляныя дамы шчыльна абступілі вузкую вулачку, выходзячы на яе сваімі ганкамі і парогамі, акаймаванымі каванымі навесамі. Рытм вокнаў з ліштвамі і аканіцамі ўзмацняе адчуванне перспектывы. З боку вуліцы К. Лібкнехта (былой Нямецкай) завулак крута ўзнімаецца ўгору, драўляныя будынкі ўразаюцца ў рэльеф высокімі мураванымі падваламі-сутарэннямі. Пастэльныя адценні старой афарбоўкі шаляваных сцен, разных філянговых дзвярэй, ліштваў і карнізаў малююць ва ўяўленні прывабную вуліцу мінулага. Сям-там — вузкі зялёны газон замест тратуара. Час тут нагадвае пра сябе ўзорчатай вадасцёкавай трубой, ажурнымі разнымі рашоткамі над ганкам, карнізам. На нейкае імгненне губляецца адчуванне блізкага суседства сучаснай забудовы.

Зойдзем у дом № 18, пабудаваны ў 1910 годзе служачым-чыгуначнікам для сваёй сям'і і бацькі (адсюль і планіроўка на дзве жылыя палавіны). Прыцягваюць увагу акаймаваныя прыгожымі ліштвамі і пафарбаваныя ў белы колер высокія філянговыя дзверы са старадаўнімі абкладзенымі латунню ручкамі. На сценах — старыя шпалеры цёмна-бардовых і зялёных адценняў з паблёклым залатым узорам. Печы з белай кафлі з паясамі і карнізамі тэракотавага колеру цудоўнай архітэктурнай пластыкі. Уражваюць і пячныя дзверцы з цікавым рэльефам, вінтавымі закруткамі для шчыльнага закрывання. Над сталом — лямпа ажурнай коўкі, старая мэбля стылю мадэрн (шафа, фартэпіяна, крэслы), у кутку — медны ўмывальнік. Для гэтых рэчаў не можа быць лепшага музея, чым тое асяроддзе, у якім яны нарадзіліся.



Інтэр'ер дамоў пачатку XX ст. па Паўночным завулку і Разінскай вуліцы, 11 (с. 94—108)



## ПОГЛЯДУ НАШЧАДКАЎ

Ва ўсе часы статус помнікаў у гарадах трывала захоўваўся за палацамі і замкамі, культавымі і ўнікальнымі збудаваннямі, а жыллёвая забудова перыядычна змянялася, зносілася, рэканструявалася. І гэта не дзіўна, бо жылы асяродак больш схільны да працэсаў абнаўлення.

Ранейшыя драўляныя прадмесці Мінска апынуліся амаль у цэнтры горада або зусім непадалёку, у зоне актыўнага сучаснага будаўніцтва. Іх зносяць, пракладваючы новыя вуліцы, шляхаправоды, капаючы траншэі метро. Разам з імі знікаюць назвы, якія існавалі не адно стагоддзе (Пярэспы, Старажоўка, Татарская слабада), згладжваюцца гістарычныя межы фарміравання горада. Сёння даведацца пра іх можна толькі з пажоўклых архіўных дакументаў. Таму так важна зберагчы драўляную архітэктуру, данесці да будучых пакаленняў памяць аб побыце нашых продкаў.



Дом 1927 года па вуліцы К. Лібкнехта



Выгляд вуліцы Базарнай. 1948—1950 гг.



Дом пачатку XX ст. па вуліцы Перакопскай, 4



Дом сярэдзіны XX ст. па вуліцы Іркуцкай



**Слуцкая вуліца ў Мазыры**

Фрагменты драўлянай жылой забудовы мінулых стагоддзяў можна сустрэць у цэнтрах многіх старажытных гарадоў, дзе яны ўспрымаюцца як састаўныя элементы гістарычных горадабудаўнічых ансамбляў. Так узнікаюць музеі гарадскога побыту, экспазіцыяй якіх становяцца цэлыя кварталы.

Даўно ўжо вызначылася рэчышча рэстаўрацыі мураванай архітэктуры гарадоў, распрацавана яе тэхналогія, ёсць навуковая аснова. А вось з помнікамі драўлянай жылой забудовы XIX — пачатку XX стагоддзя, што захаваліся, сітуацыя больш складаная. Між тым рэстаўрацыя адной толькі мураванай архітэктуры можа прывесці да скажэння гістарычнага вобліка Мінска, які заўсёды адрозніваўся ад буйных гарадоў суседніх Прыбалтыкі і Польшчы большым працэнтам драўлянай забудовы.

Праблема захавання і рэстаўрацыі помнікаў драўлянага дойлідства Мінска, як і іншых гарадоў Беларусі, можа быць вырашана распрацоўкай праграмы рэстаўрацыі горада, што мае перш за ўсё на ўвазе аднаўленне раёнаў гістарычнай драўлянай забудовы ў прадмесцях, дзе засталіся комплексы пабудоў і традыцыйная планіровачная сетка (вуліцы Калектарная і Шорная, завулак Паўночны, раён Грушаўкі, вуліца Магілёўская, раён вуліц Палескай, Лугавой, Пажарнай, Аранжарэйнай); рэстаўрацыю асобных помнікаў у прадмесцях, што страцілі асноўную масу гістарычнай забудовы.



Прадмесце Каложа ў Гродне. Пачатак XX ст.



Садовая вуліца ў Магілёве. Пачатак XX ст.



Быхаўская вуліца ў Магілёве. Пачатак XX ст.



Бабруйск у пачатку XX ст.



Быхаўскі рынак у Магілёве. Пачатак XX ст.



Прадмесце Палагееўка ў Магілёве. Пачатак XX ст.



Брэст у пачатку XX ст.



Падзвінскі мост у Віцебску. Пачатак XX ст.



Выгляд Брэсцкай вуліцы ў Пінску. Пачатак XX ст.



Выгляд Аляксандраўскай вуліцы ў Баранавічах. Пачатак XX ст.



Выгляд Базарнай вуліцы ў Барысаве. Пачатак XX ст.



Забудова Баранавічаў. Пачатак XX ст.



Рагачоў у пачатку XX ст.



Выгляд рыначнай плошчы ў Лідзе. Пачатак XX ст.



**Дзверы. Пачатак XX ст., г. Бабруйск**



**Акно з разьбянымі ўпрыгажэннямі. Першая палова XX ст., г. Бабруйск**



**Забудова канца XIX — пачатку XX ст. па вуліцы Пушкіна ў Магілёве**



**Заслаўе. Пачатак XX ст.**

Гэтымі прынцыпамі мэтазгодна кіравацца пры рэстаўрацыі гістарычнай забудовы, вылучыўшы такія комплексы, як старажытны горад і замчышча (XI—XIIIстст.), Верхні горад і Троіцкае прадмесце (XV—XIX стст.), прадмесці XIX—пачатку XX стагоддзя. Прычым рэканструкцыю неабходна праводзіць з улікам месца пабудовы ў структуры ўчастка (дом, флігель, хлеў, агарод, сад і г. д.), яе архітэктурна-планіровачнага рашэння (адна-, двух-, трохкватэрны дом, адна-, двухпавярховы і г. д.), асаблівасцей канструкцыі і пластычнага дэкору (фундамент і зруб, дах, ліштвы акон, аканіцы, разьба).

Помнікі драўлянай архітэктуры могуць мець самае разнастайнае прызначэнне. Зусім рэальная, напрыклад, іх музеефікацыя, якая прадугледжвае наступныя варыянты і тэмы:

арганізацыя музеяў у будынках, якія звязаны з канкрэтнымі падзеямі партызанскай і падпольнай барацьбы ў гады Вялікай Айчыннай вайны або прысвечаны жыццю вядомых дзеячоў беларускай культуры;

наладжванне пастаянных этнаграфічных экспазіцый, якія паказваюць рысы культуры і побыту розных саслоўяў гараджан канца XIX—пачатку XX стагоддзя (жыллё рабочага, служачага, рамесніка і інш.);

адкрыццё ў асобных помніках майстэрняў гарадскіх рамёстваў, промыслаў, вучэбных цэнтраў рамёстваў з майстэрнямі сувенірнай і лёгкай прамысловасці;

арганізацыя культурна-асветніцкіх устаноў (літаратурна-музычных, тэатральна-канцэртных, відэа- і выставачных гасціных, гурткоў гісторыі роднага горада, бібліятэк, тэматычных музеяў і г. д.). Прастора плошчы або вуліцы можа быць выкарыстана для правядзення этнаграфічных свят, фальклорных праграм;

утварэнне з помнікаў, якія захаваліся ад асобных прадмесцяў, мяжы гісторыка-архітэктурнай часткі горада, адкрыццё ў іх мемарыяльных музеяў, музеяў раёнаў горада, клубаў народных майстроў, бібліятэк, відэатэк і г. д.

У помніках драўлянай забудовы могуць таксама размяшчацца арэндныя арганізацыі і кааператывы, гасцінічна-турысцкія гарадкі і г. д.

Безумоўна, існуе яшчэ мноства шляхоў выкарыстання і прыстасавання помнікаў драўлянай архітэктуры. Усе яны павінны захаваць тую пераемнасць пакаленняў, што з'яўляецца жывой крыніцай для выхавання высокай маралі, духоўнасці. Каб не перарвалася сувязь паміж мінулым і будучыняй, клопаты аб помніках гісторыі і культуры павінны стаць для кожнага грамадзянскай і маральнай нормай.

# ДАДАТАК

## ПЕРАЛІК ЖЫЛЫХ ДАМОЎ — АБСЛЕДАВАНЫХ ПОМНІКАЎ ДРАЎЛЯНАЙ АРХІТЭКТУРЫ КАНЦА XIX — ПАЧАТКУ XX СТАГОДДЗЯ, ЯКІЯ РЭКАМЕНДУЕЦЦА ЎЗЯЦЬ ПАД АХОВУ

Беларуская вул.
Вішнёвы зав., 2
Грушаўскі зав., 3, 5, 7
Дзімітрава вул., 11, 23
Калектарная вул., 7, 8, 26, 38
К. Лібкнехта вул., 34
Лугавы зав., 8
Магілёўская вул., 66, 76
Маякоўскага вул., 77
Надзеждзінская вул.
Палеская вул., 6, 8, 10, 20, 22, 24, 28, 32, 36, 45
Паўночны зав.
Перакопская вул., 4
Полацкі зав., 7
Разінская вул., 1, 2, 6, 14, 19, 20, 31, 41, 43, 56, 90, 92, 118
Разінскі зав., 3, 7
Слуцкая вул., 55
Смаргонскі тракт, 23
Стара-Віленскі тракт, 1
Студэнцкая вул., 10, 12
Хмялеўскага вул.
Чарвякова вул., 5
3-ці Чыгуначны зав., 4, 17/1, 18
Чырвонаармейская вул., 45, 72, 74
Шорная вул., 17, 19, 20, 29
Шпалерная вул., 8, 8а
Шпалерны зав., 4

# ЛІТАРАТУРА

Бернгард Таннер. Описание путешествия польского посольства в Москву в 1878 году. М., 1891.

Бомштэйн И. А. Справочная книга и спутник по Минской губернии. Мн., 1889.

Вараксин Н. В. Условия строительства белорусских городов во второй половине XIX — начале XX в. // Материалы к IX конференции молодых ученых. Общественные науки. Мн., 1964.

Весь Минск, или спутник по г. Минску. Мн., 1911.

Виды города Минска. Ч. 1. Мн., 1904.

Городовое положение 11 июня 1892. Пг., 1915.

Города России в 1910 году. СПб., 1914.

Гісторыя Мінска. Мн., 1967.

Даўгяла З. І. Стары Менск // Наш край. 1928. № 1.

Там же. 1928. № 3.

Друшчыц В. Месца Менск у канцы XV і пачатку XVI ст. // Працы БДУ. 1926. № 2.

Егоров Ю. Градостроительство Белоруссии., М., 1954.

Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и села Белорусской ССР. Мн., 1959.

Загорульский Э. М. Древний Минск. Мн., 1963.

Загорульский Э. М. Возникновение Минска. Мн., 1982.

Иоган Георг Корб. Дневник путешествия в Московию (1688—1699). СПб., 1906.

Kowalewska Z. Obrazki Minskie. Wilno, 1912.

Краснянскі В. «Чарцёж» месца Віцебску 1664 г. як дакументальны помнік да гісторыі беларускага драўлянага будаўніцтва // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 6. Працы Камісіі гісторыі мастацтва. Т. 1. Менск, 1929.

Минск. Краткая хроника. Мн., 1967.

Минский листок. 1890, 1899.

Минское слово. 1911—1912.

Обзор Минской губернии за 1904 г. Мн., 1905.

Осмоловский М. С. Минск: Градостроительство столицы Советской Белоруссии. Мн., 1964.

Павловский К. А. Минск, его прошлое и настоящее: Очерк. Мн., 1892.

Проект обязательных для жителей г. Минска постановлений, составленных строительной комиссией при минской городской управе. Мн., 1912.

Путешествие в Московию барона Августина Мейерберга и Горация Вильгельма Кальвуччи, послов императора Леопольда к царю и Великому князю Алексею Михайловичу в 1661 году // Чтения в императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете. Кн. 1. М., 1874.

Рабинович М. Г. Русское жилище в XIII—XVII вв. // Древнее жилище народов Восточной Европы. М., 1975.

Раппопорт П. А. Древнерусское жилище (XI—XIII вв.) //Древнее жилище народов Восточной Европы. М., 1975.

Рак Р. Рамеснікі мястэчка Менску да рэвалюцыі 1917 // Наш край. 1927. № 4.

Сапунов А. П. Полоцк, Витебск, Минск в 20-х годах прошлого века. Витебск, 1901.

Смородский А. П. Столетие Минской губернии (1793—1893): Историко-статистические заметки. Мн., 1893.

Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии. Мн., 1948.

Тарасенко В. Р. Древний Минск // Материалы по археологии Белоруссии. Т. 1. Мн., 1957.

Тихомиров М. Н. Древнерусские города. Мн., 1956.

Урванцов С. Медико-санитарный очерк г. Минска. СПб., 1910.

Урочное положение: Пособие при составлении и проверке смет, проектировании и исполнении работ. СПб., 1913.

Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. Мн., 1969.

Шибеко З. В. Минск в конце XIX — начале XX в. Мн., 1985.

Шпилевский П. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. СПб., 1858.

Юрэвіч У. Мінск учора, сёння, заўтра. Мн., 1987.

Ястремский Ф. Н. Краткий очерк Минской губернии в физико-географическом и статистико-экономическом отношении. Ч. 1. Мн., 1897.

# ЗМЕСТ

Научно-популярное издание

**Локотко Александр Иванович**

**СИЛУЭТЫ СТАРОГО МИНСКА**
ОЧЕРКИ ДЕРЕВЯННОЙ АРХИТЕКТУРЫ

Минск, издательство «Полымя»

На белорусском языке

Навукова-папулярнае выданне

**Лакотка Аляксандр Іванавіч**

**СІЛУЭТЫ СТАРОГА МІНСКА**

НАРЫСЫ ДРАЎЛЯНАЙ АРХІТЭКТУРЫ

Загадчыца рэдакцыі *Л. І. Круглова*
Рэдактар *Л. Л. Мальцава*
Слайды *Г. Л. Ліхтаровіча*
Фота *В. А. Карбоўскага, А. І. Лакоткі*
Мастацкі рэдактар *Ю. І. Паддубскі*
Тэхнічны рэдактар *В. У. Кузьміна*
Карэктар *Т. С. Бялінская*

ІБ № 951

Здадзена ў набор 18.10.90. Падпісана да друку 02.08.91. Фармат $60 \times 84^1/_{16}$. Папера кн.-часопісная. Гарнітура журн.-рубленая. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 7,44. Ум. фарб-адб. 8,72. Ул. выд. арк. 7,22. Тыраж 3900 экз. Выд. № 7681. Зак. 1564. Цана 1 р. 50 к.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, В. Таўлая, 11.

**Лакотка А. І.**

Сілуэты старога Мінска: Нарысы драўлян. архітэктуры. — Мн.: Полымя, 1991. — 126 с.: іл. — (Помнікі беларус. дойлідства).

ISBN 5-345-00447-1.

Локотко А. И. Силуэты старого Минска: Очерки деревян. архитектуры.

Аўтар расказвае пра цудоўны свет драўлянай архітэктуры, якая склалася на шырокім прамежку часу ад заснавання горада да пачатку нашага стагоддзя, паказвае арганічную сувязь гістарычных працэсаў з матэрыяльнай культурай народа.

Кніга будзе цікавай кожнаму, каму дарагая народная спадчына, каго цікавіць яе вывучэнне і захаванне.

Л $\frac{4902020000-047}{М\ 306(03)-91}$ 19—91

ББК 85.113(2)1

